

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 19 (4922) 12 мая 2017 г.




# Сенсацыя ад Рэмбранта

## Партрэты і гравюры галандца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі

**Упершыню за сорак год у Мінск прыехала выстаўка гравюр знакамітага галандскага майстра Рэмбранта Харменса ван Рэйна. Журналісты і госці Нацыянальнага мастацкага музея назвалі гэтую падзею самай маштабнай сенсацыяй вясны. Шэсцьдзясят дзевяць арыгінальных афортаў прывезены ў музей з італьянскай прыватнай калекцыі, большасць з якіх былі надрукаваны пры жыцці майстра. Самы ранні — у 1627 годзе, самы позні — у 1665-м.**


Фота Яўгена Пясецкага.

Падчас адкрыцця выстаўкі гравюр Рэмбранта.

Нягледзячы на тое, што імя Рэмбранта непарыўна звязана з залатым стагоддзем галандскага жывапісу, знакаміты майстар быў яшчэ і выдатным гравёрам. Як адзначаюць мастацтвазнаўцы, менавіта гравюра прыносіла Рэмбранту добры грашовы даход. Арганізатар выстаўкі, мастацтвазнаўца Вольга Кліп, прызналася: экспазіцыя гравюр Рэмбранта ў Мінску — вялікі поспех. Пашанцавала, што калекцыя была даступная, бо, як правіла, чарга на паказ твораў мастака распісаная на тры гады наперад.

Выстаўка падзяляецца на некалькі тэматычных зон. На ўваходзе глядач можа пазнаёміцца з рэлігійнымі сюжэтамі — «Нараджэнне Хрыста», двума творамі, прысвечанымі дзяцінству Ісуса, «Уцёкі ў Егіпет». Цэнтральную частку экспазіцыі займае гравюра «Зняцце з крыжа». Гэта самы манументальны твор выстаўкі, яго атачаюць некалькі работ той жа тэматыкі і іншыя біблейскія сюжэты: «Вяртанне блуднага сына», «Ушэсце Лазара», «Смерць Панны Марыі». Далей перад гледачом паўстаюць бытавыя сцэны і партрэты, у тым ліку аўтапартрэт Рэмбранта з яго жонкай Саксіяй.

Працяг на стар. 2 ►


«Вяртанне блуднага сына» 1636 г.


Фота БелТА.

# ВУЛІЧНЫ ІНТЭРАКТЫЎ

## Сезон у Верхнім горадзе адкрылі больш за 200 артыстаў з 6 краін

Іх сабраў Форум вулічных тэатраў, які праходзіць у сталіцы ўжо пяць гадоў запар. Артысты з Расіі і Германіі, Італіі і Польшчы, Прыднястроўя і Беларусі напярэдадні майскіх святаў дазволілі адчуць радасць мірнага жыцця, перажыць самыя добрыя эмоцыі і раскрыць уласныя таленты.

На два дні цэнтр сталіцы ператварыўся ў адкрытую гуллівую пляцоўку, дзе можна было сустрэцца з фантастычнымі персанажамі, пасябраваць з Гуліверамі на хадулях, паразгадваць таямніцы фокусаў і завітаць у цыркавы дворык, ды і самім пагрузіцца ў тэатралізаваныя прадстаўленні. Мінск у маі ператвараецца ў карнавальны горад: відовішчнае шэсце ад Кастрычніцкай плошчы да плошчы Свабоды артыстаў у касцюмах сёлета нагадала пра тое, што як у фантастычным свеце, так і ў рэальнасці могуць існаваць побач з намі анёлы і дэманы, блазны і магі, спрытныя акрабаты і вельмі гнуткія людзі. Гукі трубы клікалі падзяліць трыумф вясны, абуджалі да жыцця: каб людзі не ператвараліся ў жывыя статуі, бо і апошнія здольныя ажываць на радасць іншым. Інтэрактыў, прапанаваны артыстамі, прываблівае мінчан, якія спадзяюцца на працяг творчых сустрэч у Верхнім горадзе.

## Пункцірам

✔ «У нашай гісторыі нямала лёсавызначальных дат. Але 9 мая 1945 года — асаблівы дзень — Дзень Вялікай Перамогі. Яна заваявана савецкім народам у самай страшнай вайне, бязлітаснай вайне з фашызмам», — адзначыў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас цырымоніі ўскладання вянкоў да манумента Перамогі ў Мінску з нагоды 72-й гадавіны Вялікай Перамогі. «Злачынствы нямецка-фашысцкіх захопнікаў з памяці людзей не выкрасліць. Гэта павінны ведаць у тым ліку і тыя, хто сёння робіць спробы перапісаць гісторыю, адабраць у нашага народа Вялікую Перамогу. Дапусціць гэтага мы не можам», — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў з 95-годдзем народнага артыста СССР Уладзіміра Этуша. «Ваш жыццёвы шлях — прыклад дасягнення вяршынь акцёрскага майстэрства і адданага служэння мастацтву. Яркія і запамінальныя вобразы, створаныя ў тэатры і кіно, прынеслі Вам заслужаную павагу прафесіяналаў і шчырую любоў гледачоў», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ў Беларусі высока цэняць творчую і педагагічную дзейнасць артыста, якая садзейнічае ўмацаванню культурных сувязей паміж братнімі народамі дзвюх краін.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў з 80-годдзем народнага артыста Расіі Юрыя Назарава. «Цудоўныя акцёрскія работы, талент і адданасць любімай справе прынеслі Вам шырокую папулярнасць. Створаныя Вамі яркія і незабыўныя вобразы па праве ўваходзяць у залаты фонд сучаснага мастацтва. Прэзідэнт Беларусі адзначыў, што Юрыя Назарава ведаюць і цэняць у Беларусі як цудоўнага і рознабаковага адоранага чалавека.

✔ Заслужаныя танцавальныя калектывы нашай краіны выпраўляюцца летам у турнэ па гарадах свету. Выступленні беларускага дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» з новай праграмай «Мы — беларусы» і заслужанага калектыву Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі з новай музычна-харэаграфічнай праграмай «Спадчына» адбудуцца падчас акцыі *Belarus Day* («Беларускі Дзень»). Ініцыятыва гэтага штогадовага мерапрыемства з нагоды Дня Незалежнасці Беларусі прагучала на пятым Усебеларускім народным сходзе.

✔ Тэатры з Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы возьмуць удзел у міжнародным фестывалі «Славянскія тэатральныя сустрэчы», які адбудзецца ў Гомелі 16 — 19 мая. Сёлета дэвіз форуму — «Тэатр — будучаму». Акцэнт будзе зроблены на пастаноўкі, створаныя маладымі аўтарскімі калектывамі, артыстамі, рэжысёрамі, мастакамі, а таксама на работы, якія наўмысна створаны для малодых гледачоў.

✔ У Гальшанах 20 мая ў восьмы раз адбудзецца фестываль «Гальшанскі замак», які традыцыйна збірае ля старажытных муроў аматараў сярэднявечнай культуры з усёй краіны. Сёлета фэст прысвячаецца 595-годдзю з дня ўступлення ў шлюб Соф'і Гальшанскай і караля Польшчы Ягайлы. Разам з традыцыйнымі нумарамі гасцей мястэчка чакаюць праграмы «начны штурм крэпасці», коннае шоу, канцэртныя праграмы з удзелам гуртоў «Восьмыдзень», *HardWood, Cad Goddeu*.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Радкі для фестывалю

Пісьменніцкая суполка краіны папаўняецца цікавымі творцамі. Падчас пленуму СПБ сябрам арганізацыі стаў паэт-песеннік Алег Жукаў, аўтар тэкстаў больш як 200 песень, якія выконваюць Ірына Дарафеева, Вольга Плотнікава, Юрый Антонаў, Аляксандр Буйноў і іншыя папулярныя беларускія ды расійскія эстрадныя спевакі. Шлягерамі паспелі стаць «Люди встречаются», «Птицы», «Все цветы июля»…

Сярод новых сяброў СПБ — паэт і празаік Аляксандр Кавалёнак, дзіцячы пісьменнік Андрэй Мацвеенка, публіцыст Наталля Сляднева. А песні на вершы Алега Жукава можна будзе пачуць падчас Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне, які адбудзецца на пачатку чэрвеня. Першы намеснік старшыні СПБ Алена Стэльмах распавяла, што да ўдзелу ў святочнай праграме запрошаны і маладыя паэты. Напярэдадні свята старшыня СПБ Мікалай Чаргінец прапанаваў паэтычны дэсант у Маладзечна. Гэтую ініцыятыву падтрымала рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Белая Русь». Мінскае абласное аддзяленне СПБ прадставіць літаратурна-музычную кампазіцыю ў гімназіі-каледжы мастацтваў г. Маладзечна. У гімназіі № 10 адбудзецца сустрэча з лаўрэатамі прэміі Саюзнай дзяржавы, у тым ліку з паэтам-песеннікам Іванам Юркіным. У першы дзень чэрвеня пройдуць творчы вечар паэта-песенніка Кастуся Цыбульскага, прэзентацыя кніг серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае» выдавецтва «Чатыры чвэрці», сустрэча юных чытачоў з дзіцячымі пісьменнікамі і прэзентацыя альбома «Зачараваны Беларуссю».

Да свята СПБ рыхтуе яшчэ два цікавыя праекты. Паэт-песеннік Андрэй Скарынкін прапанаваў паказаць рок-оперу па паэме Янкі Купалы «Курган», у якой прагучаць вершы сучасных паэтаў. Мяркуецца прэзентаваць і скульптурна-паэтычную кампазіцыю, суаўтары якой — скульптар Уладзімір Слабодчыкаў і паэтэсы Валянціна Паліканіна, Юлія Алейчанка, Маргарыта Латышкевіч, Іна Фралова.

Яшчэ адной тэмай пасяджэння стала завяршэнне раённых этапаў рэспубліканскага конкурсу чытальнікаў «Жывая класіка». У кожным раёне сярод членаў журы былі пісьменнікі. Алена Стэльмах адзначыла: вельмі радуе, што школьнікі цікавяцца беларускай літаратурай. Цяпер ідзе падрыхтоўка да абласных этапаў.

І яшчэ адзін цікавы факт на адрас СПБ прыйшоў цёплы водгук з Кабардзіна-Балкарыі, куды сябры творчай арганізацыі адправілі свае кнігі: студэнты філалагічнага факультэта Кабардзіна-Балкарскага дзяржуніверсітэта, дзе цяпер вывучаюць і беларускую мову, атрымалі магчымасць пазнаёміцца з нашай культурай.

**Яна ЯВІЧ**

# СЕНСАЦЫЯ АД РЭМБРАНТА



*Аўтапартрэт з Саскіяй, 1963 г. Афорт.*

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

— Наведвальнікі музея могуць убачыць шырокі жанравы дыяпазон творчасці мастака, — адзначае Вольга Кліп. — Прадстаўленыя гравюры былі паказаны ў розных музеях свету — Італіі, Германіі, Іспаніі, Паўднёвай Амерыцы. У межах экспазіцыі работы размешчаны ў храналагічным парадку, таму можна назіраць эвалюцыю творчасці майстра і тое, як з гадамі змяняўся яго аўтарскі стыль. Гравюра Рэмбранта робіць крок ад вялікай дэталізацыі да большай эскізнасці.

Арганізатары выстаўкі прызнаюцца, што ўспрымаць графіку, асабліва ў такім невялікім памеры (ёсць гравюры, якія вымяраюцца сантыметрамі!), гледачу дастаткова складана. Але ж у гэтым выпадку глядач не проста апынаецца сярод шэдэўраў, а трапляе літаральна ў храналогію жыцця, дзе адкрывае для сябе аўтара з боку асабістага ўспрымання і разумення. Тым больш, што мэта прадстаўленага праекта — не проста паказаць гравюры Рэмбранта, але і звярнуцца да друкаванай графікі як да віду мастацтва, дасканала растлумачыць гледачу складанасці гэтага працэсу.

Мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн на адкрыцці праекта падкрэсліла, што такія выстаўкі дазваляюць зразумець, з чаго вырасла сучаснае мастацтва, і паглыбіцца ў гісторыю, асабліва ўлічваючы факт, што Рэмбрант быў кумірам шмат якіх творчых асоб.

Экспазіцыя ў Мінску будзе працаваць да 3 ліпеня. За гэты час аматары мастацтва могуць не толькі наведаць выстаўку, але і паўдзельнічаць у лекцыях, творчых сустрэчах з мастацвазнаўцамі, якія паспрабуюць больш дакладна расказаць пра жыццё і творчасць галандскага майстра.

**Вікторыя АСКЕРА**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**14 мая** — *на фестываль духоўнай паэзіі і песні «Святую Сафію ўсхвалім» на пляцоўку прыхода храма праведнай Сафіі Слуцкай. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**15 мая** — *у Дом літаратара на ўрок мужнасці з удзелам паэтэсы Алы Чорнай. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**16 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у межах X Віткаўскіх чытанняў у Слуцкую раённую цэнтральную бібліятэку. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**16 мая** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы на творчую сустрэчу з паэтэсай, кампазітарам і спявачкай Таццянай Атрошанка. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**17 мая** — *на імпрэзу «Падарожжа ў свет дзяцінства», якая адбудзецца ў дзіцячай бібліятэцы № 15. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**17 мая** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Тулінавым. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**17 мая** — *на пасяджэнне студыі юных літаратараў «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**18 мая** — *у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 на паэтычную вечарыну «Памятаем. Шануем. Ганарымся». Пачатак у 17.30.*

**19 мая** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Пачатак у 14.30.*

**19 мая** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23. Пачатак у 14.30.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**15 і 16 мая** — *на абласны этап рэспубліканскага конкурсу чытальнікаў «Жывая класіка» з удзелам Тамары Красновай-Гусачэнка ў Віцебскі абласны палац дзяцей і моладзі. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**12 мая** — *на адкрыццё персанальнай выстаўкі мастака, паэта, празаіка Анатоля Галушкі ў Абласную выставачную залу. Пачатак у 16.30.*

**15 мая** — *на сустрэчу брэсцкіх пісьменнікаў са студэнтамі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**16 мая** — *у дзіцячы садок «Казка» г. Горкі на прэзентацыю кніжкі-размалёўкі паэтэсы Ніны Кавалёвай "Я шагаю по земле». Пачатак а 12-й гадзіне.*

**17 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Анатолем Мельнікавым у Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова. Пачатак у 12.30.*

**20 мая** — *на абласное свята паэзіі і аўтарскай песні «Пісьмянкоў луг» (г. Касцюковічы). Пачатак у 11.00.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**15 мая** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Валянцінай Гіруць-Русакевіч у межах праекта «Ад культуры чытання да культуры асобы» ў СШ № 87 г. Мінска. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**18 мая** — *на творчую сустрэчу з дзіцячай пісьменніцай Кацярынай Хадасевіч-Лісавой у публічную бібліятэку № 20 г. Мінска. Пачатак а 12-й гадзіне.*

Памяць



# ЗНІЧ МІНУЛАЙ ЭПОХІ

Вялікай стратай азначаны гэты май: на 98-м годзе жыцця сышоў Мікола Якаўлевіч Аўрамчык.

Пісьменнік, ён мог бы й сам стаць героем вялікага рамана. Мікола Якаўлевіч ваяваў на Вялікай Айчыннай, удзельнічаў у баях на Паўночна-Заходнім і Волхаўскім франтах, прайшоў нямецкі палон. Затым, паўтарыўшы лёсы многіх беларусаў, падпаў пад рэпрэсіі, працаваў у шахтах, пры гэтым не пакідаючы паэзію. Усе, хто ведалі Міколу Аўрамчыка, дзівіліся ягонаму аптымізму, тонкаму гумару. Помніцца сустрэча ў бібліятэцы, на якой патрыярх беларускай літаратуры быў ці не самы энергічны, самы вясёлы. Са свайго трагічнага лёсу ён не рабіў ідала, распавядаў пра страшныя рэчы, якія не кожны здолее перажыць, з усмешкай, і мужнасць гэтая не была знарочыстай. Ён быў выдатным аўтарам і выключнай Асобай.

Мікола Аўрамчык нарадзіўся 14 студзеня 1920 года ў Плёсах Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыўшы мясцовыя школы (у Плёсах і Цялушы), паступіў на філфак Мінскага педагагічнага інстытута — у змрочным 1938 годзе. Яшчэ студэнтам Мікола Якаўлевіч пачаў працу ў перыёдыцы. Тады ж пазнаёміўся з Янкам Купалам, Кузьмой Чорным, Алесем Салаўём. Ведаў Уладзіславу Францаўну Луцэвіч, ведаў Коласа. Пасля вайны, пасля рэпрэсій, ён вярнуўся ў літаратуру такі ж энергічны і добразычлівы. Працаваў у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Полымя», а з 1953-га па 1980-ы год быў рэдактарам аддзела паэзіі часопіса «Маладосць». Так, без малога 30 гадоў ён аддаў працы з маладымі. За гэты час адкрыў для нашае літаратуры дзясяткі яркіх, цяпер знакавых, імёнаў. Сваім настаўнікам лічаць яго адразу некалькі пакаленняў беларускіх пісьменнікаў. Мікола Аўрамчык быў, пэўна, адзіным чалавекам, які не даваў канчаткова парвацца сувязі такіх далёкіх між сабой пакаленняў літаратараў. Ён быў заўжды сучасны, пры тым што сам дэбютаваў вершамі яшчэ ў 1937 годзе. Выдаў больш за дзясятак кніг паэзіі Аўтар кнігі «Знаёмыя постаці» (2004), а таксама, разам з Нілам Гілевічам, — паэмы «Сказ пра Лысую гару». 10 мая вучні, калегі, блізкія развіталіся з Міколам Якаўлевічам.

Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа глыбока смуткуе з прычыны смерці вядомага беларускага пісьменніка Міколы Аўрамчыка. Мікола Якаўлевіч — легендарная постаць у айчыннай літаратуры. Па ўспамінах самога паэта, ён браў урокі майстэрства і жыццёвага досведу ў беларускага класіка пры непасрэдных сустрэчах. Часта бываў госцем Дома Коласа яшчэ пры жыцці гаспадара, а калі адкрыўся музей — стаў нязменным удзельнікам літаратурных імпрэз, шчодра дзяліўся ўспамінамі пра дзядзьку Якуба. Выказваем шчырыя спачуванні родным і блізкім паэта. Памяць пра Міколу Якаўлевіча застанецца ў нашых сэрцах.

Калектыў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы глыбока смуткуе з прычыны смерці выдатнага беларускага пісьменніка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы Міколы Аўрамчыка і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім. Ён, благаслаўлены ў творчы шлях Янкам Купалам і Якубам Коласам, пакінуў нашчадкам багатую спадчыну — шчырае, адухоўленае, высакароднае, крышталёва чыстае беларускае слова, што жыве ў яго паэзіі і прозе.

Ганарымся, смуткуем, памятаем.



# ЯРКІМ ВОДБЛІСКАМ ЗАСТАЎСЯ

Непапраўная страта напаткала беларускае літаратурнае асяроддзе — 6 мая на пяцьдзясят восьмым годзе жыцця раптоўна перастала біцца сэрца выдатнага чалавека, члена прэзідыума і праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, генеральнага дырэктара Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду Уладзіслава Антонавіча Мачульскага.

Нарадзіўся Уладзіслаў Антонавіч 6 студзеня 1960 года ў Мінску, хаця ў дзяцінстве, ды і ў юнацтве, шмат часу бавіў у вёсцы на Старадарожчыне.

Ён быў чалавекам шматгранным, высокаадукаваным і проста прыемным, прыязным, добразычлівым.

За нядоўгае, на вялікі жаль, аднак яркае жыццё паспеў папрацаваць ваенным пракурорам пасля заканчэння Маскоўскага юрыдычнага інстытута, паступіць у які па тым часе было вельмі складана, намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў, дырэктарам Літаратурнага фонду, дырэктарам вядучага дзяржаўнага выдавецтва Беларусі «Мастацкая літаратура», якое ўзначальваў з 2002-га па 2015-ы, а пасля зноў Літфонд СПБ — апошняе месца працы.

На якой бы пасадзе ні працаваў Уладзіслаў Антонавіч, ён заўсёды праяўляў ініцыятыву, адказна ставіўся да пастаўленых задач, выконваў іх бездакорна. Дзякуючы яму ў свой час значна ажывілася дзейнасць «Мастацкай літаратуры», у тым ліку і на міжнародным узроўні. Пра гэта сведчаць шматлікія ўзнагароды выдавецтва самага рознага кшталту — як дзяржаўнага, так і сусветнага: прэмія «Золата Парыжа» (2006), Гран-пры Міжнароднага конкурсу (2009) за літаратурна-мастацкае выданне Леаніда Несцерчука «Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны» і шматлікія ўзнагароды на міжнародных і рэспубліканскіх выстаўках-кірмашах за поспехі ў мастацка-тэхнічным афармленні і паліграфічным выкананні. Кнігі ж новых серый «Жыццё знакамітых людзей Беларусі», «Зямля мая», «Нашы Героі», «Беларуская аўтарская казка», «Казкі XXI стагоддзя» набылі папулярнасць і з'яўляюцца візітнай карткай прадпрыемства.

Менавіта пры непасрэдным і актыўным удзеле Уладзіслава Мачульскага Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь было адноўлена выданне кніг сацыяльна значнай серыі «Школьная бібліятэка». І само паняцце «Сацыяльна значная літаратура» таксама ўведзена Міністэрствам інфармацыі не без яго ініцыятывы. Гэтую добрую традыцыю «Мастацкая літаратура» паслядоўна працягвае.

Выдавецкай дзейнасцю Уладзіслаў Антонавіч працягваў займацца і ўзначальваючы Літаратурны фонд. Курыраваў выданне часопіса Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы «Белая Вежа». Пры яго непасрэдным удзеле выйшла нямала годных кніг. Створаны тэатр пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі, які і дасюль працягвае радаваць гледача са сцэны Дома літаратара. Рэалізавана шмат іншых творчых праектаў.

Жыццё Уладзіслава Антонавіча абарвалася ў перыяд росквіту прыроды, калі ўсё вакол ажывае. Але ж у памяці тых, хто яго ведаў, хто быў побач, ён застанецца назаўсёды як таленавіты арганізатар, прыгожы ўнутрана і знешне чалавек, верны сябра.

На пахавальнай цырымоніі прагучала і такое вобразнае выказванне: бываюць свечкі, якія гараць цьмяна, але доўга, а бываюць такія, якія гараць вельмі ярка і хутка згараюць. Дык вось Уладзіслаў Антонавіч Мачульскі быў той самай яркай свечкаю. Ён асвятляў усё вакол шчырай усмешкай, пазітыўнай энергіяй, цёплымі адносінамі да людзей.

Мы ўдзячны лёсу, што дазволіў пабыць разам. Будзем помніць цябе заўсёды, дарагі калега і сябра.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ смуткуе з прычыны смерці пісьменніка, генеральнага дырэктара Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду Уладзіслава Антонавіча МАЧУЛЬСКАГА і выказвае глыбокія спачуванні яго родным і блізкім.

Калектыў УП «Мастацкая літаратура» смуткуе з выпадку заўчаснай смерці былога дырэктара выдавецтва Уладзіслава Антонавіча МАЧУЛЬСКАГА і выказвае глыбокае спачуванне яго родным і блізкім у сувязі з напаткаўшым іх вялікім горам.

## Дайджэст

• Глыбоцкія журналісты добраўпарадкавалі магілу Тарквінія Буйніцкага — бацькі заснавальніка беларускага тэатра Ігната Буйніцкага. Могілкі знаходзяцца ў вёсцы Вострава, дзе некалі быў адзін з маёнткаў роду Буйніцкіх. Маці Ігната Буйніцкага — Клатыльда з Гласкаў — памерла досыць рана. Другая жонка Тарквінія, Вера Буйніцкая, памерла ў 1920 годзе і пахаваная побач. Магілу Тарквінія і Веры Буйніцкіх падчас навуковай экспедыцыі адшукалі 27 жніўня 2013 года. Пахаванне знаходзіцца ў старой частцы вострадаўскіх могілак, у даволі запушчаным стане. На месцы працы журналісты задаліся пытаннем: «Чаму ва ўсіх даведніках імя па бацьку ў Ігната Буйніцкага — Цярэнцьевіч, калі ён сам падпісваўся — Тарквіньевіч?» Адна з версій — Ігнат Буйніцкі змяніў сам імя па бацьку падчас гастроляў у Расіі: для расіян імя Цярэнцій больш звыклае.

• Культавы амерыканскі кінарэжысёр Дэвід Лінч абвясціў, што пасля выхаду на тэлеэкраны ўсіх серый новага «Твін Пікс» перастане здымаць кіно. Адбылося гэта падчас гутаркі з аўстралійскім выданнем *Sydney Morning Herald.* Апошнім сваім праектам Лінч назваў псіхалагічны трылер «Унутраная імперыя» 2006 года. «Многае змянілася: стольнікі цудоўных фільмаў праваліліся ў пракаце, а тое, што збірае касу, — не тое, чым я хацеў бы займацца», — сказаў ён. Пры гэтым серыял Дэвіда Лінча «Твін Пікс» вернецца на экраны 21 — 22 мая пасля прэм'еры на Канскім фестывалі. Фільм «Дзікія сэрцам» у 1990 годзе прынёс рэжысёру «Залатую пальмавую галіну» ў Канах. За ўсю кар'еру Лінча чатыры разы намінавалі на «Оскар». Акрамя кінематографа Лінч таксама займаецца музыкай і фотапраектамі.

• Навагрудскі райвыканкам запэўнівае, што сітуацыя са схіламі на Замкавай гары знаходзіцца пад штодзённым кантролем. Нагадаем, у канцы красавіка з аднаго са схілаў абсыпаўся грунт. «Інфармацыя пра тое, што гэта апоўзень, не адпавядае рэчаіснасці, — адзначылі ў райвыканкаме. — Адбыўся разрыў грунту. З тых часоў сітуацыя не пагоршылася. Вядуцца планавыя работы». Падобны разрыў быў зафіксаваны ў 2013 годзе, але з іншага боку гары. Звязана гэта з крыніцамі, якія падмываюць схілы. У галоўным упраўленні ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама паведамілі, што ў канцы красавіка з гэтай нагоды старшыня аблвыканкама Уладзімір Краўцоў правёў экстранную нараду. Распрацаваны праект па ўмацаванні гары з наладжваннем дрэнажнай сістэмы. Уся вада будзе сабраная і адведзеная, што цалкам ліквідуе магчымасць з'яўлення апоўзневых з'яў. Работы запланаваныя на гэты год.

## ЛіМ-каляндар

**8 мая** 70 гадоў споўнілася Уладзіміру Экнадыёсаву, беларускаму спеваку, народнаму артысту БССР.

**9 мая** — 125 гадоў з дня нараджэння Міхася Мялешкі (1892 — 1941), беларускага гісторыка, этнографа, паэта, празаіка, публіцыста.

**9 мая** 90-годдзе адзначыў Мікалай Назаранка, беларускі жывапісец, педагог.

**9 мая** — 80 гадоў з дня нараджэння Анатоля Бараноўскага (1937 — 2017), беларускага жывапісца, педагога, народнага мастака Беларусі.

**10 мая** 75-годдзе адсвяткаваў Сяргей Панізнік, беларускі паэт, перакладчык.

**11 мая** — 120 гадоў з дня нараджэння Анатоля Тычыны (1897 — 1986), беларускага графіка, аднаго з заснавальнікаў беларускай кніжнай графікі, жывапісца.

**11 мая** 70-гадовы юбілей адзначыла Раіса Баравікова, беларуская паэтэса, перакладчыца.

**11 мая** — 70 гадоў з дня нараджэння Міколы Дзяшкевіча (1947 — 1971), беларускага крытыка, літаратуразнаўца.

**12 мая** 75 гадоў споўнілася Анатолю Бароўскаму, беларускаму празаіку, нарысісту.

**13 мая** — 75 гадоў з дня нараджэння Галіны Егарэнкавай (1942 — 1989), беларускага і расійскага крытыка, літаратуразнаўца.

**13 мая** 70 гадоў споўніцца Вячаславу Рускевічу, беларускаму жывапісцу.

**14 мая** — 110 гадоў з дня нараджэння Іосіфа Жыновіча (сапр. Жыдовіч; 1907 — 1974), беларускага цымбаліста, дырыжора, кампазітара, педагога, народнага артыста БССР, народнага артыста СССР.

**14 мая** — 110 гадоў з дня нараджэння Францішка Каравацкага (1907 — 1988), беларускага і польскага паэта, журналіста.



# «ВЕСЯЛІЦЦА З НАМІ МУЗЫКА, З НАМІ МУЗЫКА МАЎЧЫЦЬ...»

**Гэта словы адной з песень колішніх «Верасоў», калі там працавалі Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч. З песні, як кажуць, слоў не выкінеш. Але рэальнае жыццё — яшчэ тая песня…**

У беларускай эстраднай песні склалася жыццёва-балючая сітуацыя ў сувязі з рашэннем кампазітара Эдуарда Ханка забараніць выкананне сваіх песень самым тытулаваным беларускім артыстам — Ядвізе Паплаўскай і Анатолю Ярмоленку. Справа прынцыпу для аўтара. І для прынцыпаў ёсць падставы, замацаваныя ў законе: ёсць аўтар слоў, ёсць аўтар музыкі. Выканаўцы — гэта трэці бок, удзел якога ў стварэнні песні можа аказацца наогул не зафіксаваны нідзе, акрамя хіба што свядомасці слухачоў. І як жа апошнім патлумачыць, што ў іх таксама няма права слухаць цяпер упадабаныя песні, калі таго не пажадаў хтосьці з афіцыйных «бацькоў» твора? Няўжо музыка сапраўды можа замаўчаць?

Ці ёсць выйсце з сітуацыі, калі адзін з аўтараў твора не дазваляе яго гучанне, а інтарэсы другога пры гэтым церпяць? І ці ёсць (калі па справядлівасці) частка ўдзелу выканаўцы ў поспеху песні, якая стала хітом дзякуючы яму? Падзяліцца сваімі думкамі-развагамі наконт гэтых пытанняў мы папрасілі кампазітара і паэта, якія таксама сталі аўтарамі шматлікіх песень.

**Эдуард Зарыцкі, намеснік старшыні Саюза кампазітараў Беларусі:**

— У сітуацыі з аўтарскім правам на музычны твор усё вырашаецца аўтаматычна: калі песню набывае Міністэрства культуры, каб у далейшым яе выконвалі артысты, то яна становіцца ўласнасцю Мінкульта. А гэта значыць, што твор можа выконвацца ў незалежнасці ад жадання аўтара. То бок, калі песня прададзена, у аўтара ніхто не будзе ні пра што пытацца. А вось калі твор не прадавалі, то кампазітар мае права распараджацца сваёй песняй.

Мяркую, што поспех песні залежыць ад выканаўцы. Канечне, ёсць і выключэнні, але варта ўзгадаць Алу Пугачову: 50% поспеху песні — менавіта ў яе выкананні. Некаторыя кампазітары пісалі песні адмыслова для гэтай артысткі. Таму я ўпэўнены, што выканаўца можа не толькі паўплываць на гучанне твора, але і зрабіць яго пазнавальным, унікальным.

Слухач заўсёды памятае першага чалавека, які выканаў песню. Калі ж будзе спяваць нехта іншы, вушы аўдыторыі падкажуць, што тут нешта не тое — я ў гэтым упэўніўся і на досведзе маіх твораў. Часцей за ўсё, калі песню пераспяваюць, гэта не вельмі ўдалы эксперымент, нават калі ён гучыць выдатна, але быццам чужым голасам. Таму такія эксперыменты мне падаюцца небяспечнымі — рэдка новая версія атрымліваецца лепшай за папярэднюю. Тым больш, што сёння падчас такіх змен пакутуе і твор — перарабляецца мелодыя, часам спрашчаецца ці змяняецца пад чалавека, што ўплывае і на якасць.

Канечне, артысты салідарныя адзін з адным. А вось у кампазітараў меркаванні розныя, яны падзяліліся, але ўсе згодныя з адным тэзісам — аўтары музыкі незадаволеныя тым, што іх не толькі не аб'яўляюць хоць бы на вялікіх канцэртах, але нават не ўзгадваюць у тытрах. І гэта ўплывае на музычную адукацыю нашага грамадства — маладыя артысты сёння часам нават не ведаюць, чые песні выконваюць, але могуць сказаць, што яны з рэпертуара Кіркорава.

Я лічу, што закон ёсць закон. У нас ужо некалькі разоў былі сітуацыі, калі аўтарскае права кампазітара знаходзілася пад пагрозай, таму адзінае рашэнне тут — ісці ўслед за літарай закону.

**Уладзімір Мазго, паэт, аўтар шматлікіх песень:**

— Я пачуў такую думку, што аўтарскае права павінна абараняць і кампазітара, і паэта 50 на 50, і я згодзен з такім меркаваннем. Але паўстае пытанне аховы аўтарскага права, калі аўтар слоў жыве за мяжой ці яго ўжо няма — трэба звяртаць увагу і на гэта. Тым не менш, я думаю, аўтараў двое — кампазітар і паэт, але і мае знаёмыя кампазітары кажуць, што «напачатку было Слова», таму спрачацца з імі не буду.

З уласнай практыкі магу сказаць, што не заўсёды атрымліваю аўтарскія адлічэнні. За гэтым бывае складана прасачыць: з адлічэннямі ад канцэртаў проста, а вось калі артыст выконвае песню на карпаратыве — не заўсёды можна даведацца, выканаў ён тваю песню ці не. Часам паэт не толькі не атрымлівае адлічэнняў, але і ўвагі, бо яго, як і кампазітара, са сцэны не аб'яўляюць — а гэта рабіць трэба, каб быў заўважны плён стваральнікаў. Калі быць шчырым, кожны выканаўца павінен пазначаць імя аўтара слоў і кампазітара, заключаць дагавор. Менавіта тады правы аўтараў абароненыя.

Бывае, слухачы не ведаюць аўтараў — думаюць, што твор народны. Так сталася і з адной з маіх песень — слухачы не ведалі, што аўтар — я. Атрымліваецца быццам аўтара слоў наогул не існуе ці аўдыторыя думае, што словы напісаў сам спявак. Мая думка такая: калі ў песні ёсць бацькі, іх павінны ведаць.

Мне здаецца, у сітуацыі, калі паміж кампазітарам і артыстам узнікае непаразуменне, трэба прыходзіць да кансэнсусу. Забараняць выкананне песні — гэта, канечне, дрэнна, а з іншага боку, як аўтар павінен адстойваць свае правы? Але, на маю думку, нельга аматараў беларускай эстрады пазбаўляць музыкі, якая кранае іх душу, — гэта галоўнае.

Я ўпэўнены, што поспех музычнага твора — у супольнай працы выканаўцы, кампазітара, паэта і аранжыроўшчыка. Бывае, аўтар добры, але артыст не дацягвае, бывае — наадварот, але песня можа быць сусвяльнай толькі калі творцы працуюць у адной звязцы.

Маргарыта ДЗЯХЦЯР

# На хвалі непаразумення

Можна паважаць усіх (кожнага паасобку) удзельнікаў гэтай гучнай гісторыі, і кожны слухач для сябе вызначыць — за што. І імя артыстаў, і імя кампазітара на слыху дзясяткі гадоў. І як жа так: не знайсці паразумення ў такі эмацыянальны і нават балючы момант, калі якраз і патрэбная падтрымка сяброў, і хочацца іх разумення?

Ядвізе Паплаўскай немагчыма не спачуваць. І, здавалася б, немагчыма не зразумець: той вечар, калі гучалі песні дзеля ўспамінаў пра Аляксандра Ціхановіча, для яе быў больш чым выступленне на сцэне (магчыма, таму яна — несвядома ці свядома — упусціла фармальнасці, звычайныя для канцэрта?). Для яе гэта быў вечар-ВЯЧЭРА, на саракавіны па Аляксандру Ціхановічу, куды запрасілі сяброў. Менавіта па-сяброўску ставіліся да аднаго з аўтараў песень дуэта кампазітара Эдуарда Ханка, які апынуўся на гэтым вечары.

Але ён прысутнічаў на канцэрце — і з фармальнага боку гэта так. А калі так, то свяшчэннае аўтарскае права — найвышэй за ўсё. За людзей, якія жывыя, і ім баліць; за тых, каго ўжо няма. Ім не баліць?.. Калісьці ў беларускай рэчаіснасці адказ на гэтае пытанне знаходзіўся проста пасля прачытання адной з аповесцей Васіля Быкава, і некалькім пакаленням, якія раслі ці набылі сталасць у той час, не трэба было тлумачыць, што маральна, а што — не. Гэтыя людзі цяпер і складаюць самы актыўны слухацкі кантынгент артыстаў таго часу. І кампазітараў — імёны іх былі ў пашане і гучалі не менш часта, таму мы і маем з тых самых часоў кола кампазітараў-зорак.

Такой зоркай стаў і Эдуард Ханок, якога пазнавалі. У тым ліку па песнях, якія спявалі пазнавальныя артысты. А Эдуард Сямёнавіч заўсёды адчуваў, каму даверыць сваю песню. У гэтым, дарэчы, таксама талент, у якім Эдуарду Ханку не адмовіш. Ён чалавек з выдатнай музычнай адукацыяй, якую атрымаў у Маскоўскай кансерваторыі: такая адукацыя давала падставы ствараць маштабныя музычныя творы, а ён аддаў перавагу таму, каб ствараць песні, якія б не проста знаходзілі сваіх слухачоў, а станавіліся шлягерамі для вялікай аўдыторыі. Такія песні значна хутчэй, чым маштабныя акадэмічныя творы, здольныя былі прынесці славу аўтару. Але не кожны артыст здольны зрабіць песню шлягерам, разумеў Эдуард Сямёнавіч. Таму сярод яго выканаўцаў была Прымадонна савецкай эстрады Ала Пугачова (да таго моманту ўжо вядомая артыстка) ці аўтарытэтны Эдуард Хіль. Ды і «Верасы» ўжо не першы год існавалі, калі выканалі «Малінаўку», у рэпертуары калектыву ўжо былі песні А. Пахмутавай, Ю. Семянякі, А. Іванова ды іншых аўтараў. Нельга сказаць, што «Малінаўка» стала для Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча вырашальнай у кар'еры. Але ў выкананні гэтай пары стала хітом, магчыма яшчэ і таму, што надта пасавала ім па сутнасці. Яны здолелі надаць ёй асаблівых фарбаў: тая самая завадная свістулька з'явілася дзякуючы кемлівасці артыстаў. Ці можна цяпер уявіць «Малінаўку» без яе? Адметнасці не толькі ўпрыгожваюць песні, але і дазваляюць ім замацавацца ў свядомасці людзей як мага даўжэй.



Паводле таго, як жылі, як доўга трымаліся шлягеры на піку папулярнасці, кампазітар Эдуард Ханок прыйшоў да разумення законаў, якім падпарадкоўваецца шоу-бізнес — савецкі, постсавецкі ці сусветны. І чаму адны песні вельмі хутка сыходзяць у нябыт, а іншыя гучаць гадамі. Эдуард Ханок прапанаваў уласную «тэорыю хваляў», якую абгрунтаваў на прыкладзе савецкіх артыстаў, з якімі быў знаёмы і за творчасцю якіх назіраў ужо ў постсавецкі час. Цікавая тэорыя, у якой, між іншым, можа часткова ўтрымлівацца адказ на пытанне: дык чаго ж узнік сыр-бор цяпер? Тэорыя, да якой можна ставіцца скептычна, але, разабраўшыся, пачнеш думаць: нешта ў гэтым ёсць. Аўтар тлумачыў законы папулярнасці артыстаў на канкрэтных прыкладах. Самым яскравым прыкладам для яго стала Ала Пугачова, чыя папулярнасць, на думку тэарэтыка, перажывала некалькі хваляў: то была на піку, то зніжалася. На думку аўтара тэорыі, пяць-шэсць гадоў артыст можа пратрымацца на піку хвалі — і пачынаецца спад, цікавасць зніжаецца і чалавека наогул могуць забыць. І тады патрэбны іншыя нагоды, каб узняць чарговую хвалю, прыцягнуць да сябе ўвагу, неабавязкова творчыя: нават пластычныя аперацыі, новыя шлюбы… Любы скандал, згодна з тэорыяй Ханка, здольны ўзняць новую хвалю цікавасці да артыста, пасля чаго ў яго зноў канцэрты, гастролі, заробкі...

Тэорыя Эдуарда Ханка мела рэзананс. Ён яе папулярна выклаў напрыканцы 1990-х гадоў у кнізе і пасля з'яўлення «Пу-га-чоў-шчы-ны!» здолеў прыцягнуць цікавасць ужо да сябе, стаў запатрабаваным, нават у Маскве. Было шмат інтэрв'ю, сустрэч, дзе Эдуард Ханок тлумачыў сутнасць свайго выхадніцтва, атрымаўшы... сваю хвалю папулярнасці на былой вялікай постсавецкай прасторы. Але яна нечакана пайшла на спад. Скандалы бываюць розныя, а тая ж Прымадонна можа кантраляваць сітуацыю вакол скандалаў, дзе фігуруе яе імя. Для яе Эдуард Сямёнавіч быў кампазітарам, аўтарам некалькіх песень, што сталі папулярнымі ў яе выкананні. Тут інтарэс быў узаемны: гэта гонар, калі першая спявачка краіны бярэ для выканання тваё песні. Таму з тэорыяй прыйшлося адступіць (нават публічна прасіць прабачэння ў Пугачовай). Эдуард Сямёнавіч насамрэч і гэта выдатна разумее: шмат што ў поспеху песні залежыць ад артыста — яго вакальных якасцей, таленту, харызмы.

Але той момант, калі выканаўца забяспечвае папулярнасць і вядомасць кампазітару, аўтарскае права не адлюстроўвае, хоць ёсць нагода звярнуцца да гэтага. А тут не ўсё так проста. Бо нават у некаторых песень Ханка было па некалькі выканаўцаў, але толькі адзін з іх змог ператварыць твор у шлягер. А гэта якраз выдатна разумеюць слухачы, ад якіх залежыць канчатковы вынік любых хваляў папулярнасці — артыстаў ці кампазітараў. Ці не дзеля іх працаваў Эдуард Ханок як аўтар песень і як аўтар тэорыі? І чый голас у ім больш адчувальны цяпер? Кампазітара, які шмат дзесяцігоддзяў даваў права выконваць свае песні (і ўмовы яго задавальнялі), ці тэарэтыка, які імкнецца нагадаць і праілюстраваць на ўласным прыкладзе сваю ж тэорыю творчых хваляў? Публіка чакае…

Ларыса ЦІМОШЫК

# Хованкі на лецішчы,

## альбо Госці без гаспадара

**Майскія выходныя — мара сялян і рабочых. Час выходзіць на шырокі прастор: хто з роварам, хто на шашлыкі — тут ужо каму што даспадобы. Калі ж вы аматар літаратурных мясцінаў і падарожжаў, гэтыя дзве страсці можна ўдала спалучыць, з'ездзіўшы не так далёка: дастаткова ўсяго толькі сесці на 219 аўтобус ля Пушкінскага метро і даехаць да Ждановічаў-6. Там — музей-дача Васіля Быкава.**

### ХАЛОДНАЕ ЛЕТА БЫКАВА

Сёлета музей адкрыў свае дзверы для наведнікаў 3 мая. У самы-самы першы дзень мы туды й патрапілі: Наста Смірнова, супрацоўніца музея гісторыі беларускай літаратуры, яе сяброўка Юлія, якая да музея дачынення не мае, але выклікалася паваланцёрыць, ды я. Так пашчасціла стацца першым госцем Быкава ў новым дачным сезоне.

Адразу варта папярэдзіць: апранайцеся цяплей, бо на лецішчы даволі зімна. Прычым зімна напраўду, без метафарычных спасылак. Дом трымае сцюжную абарону проста як у песні пра столь ледзяную і дзверы рыпучыя. Тое ж было пры гаспадары. Захаваўся малюнак Быкава, дзе той адлюстраваў навагодняе святкаванне каля каміна: госці, сям'я Адамовічаў, у футрах і шапках. Наста кажа, што праз гэта на лецішчы надоўга не затрымліваліся. З іншага боку, такі мікраклімат, безумоўна, спрыяе захаванню бадзёрасці і яснага розуму. Тут Быкаў таксама працаваў — на другім паверсе можаце наведаць яго рабочы кабінет з усімі неабходнымі атрыбутамі: стол ля вакна, машынка, кубачак пад эспрэса (эстэт!). На крэсле — пінжак гаспадара. Прычым выглядае ён так «жыва», быццам Быкаў вось-вось зойдзе ў кабінет і, строга зірнуўшы, запытае: «А вы тут што робіце?..» Да слова, у кабінеце раю звярнуць увагу на мініяцюрную шафку — гэта адна з хованак Быкава. Хованак, дужа неабходных у вечна халоднай атмасферы...

### ХОВАНКА № 2

Вернемся ў гасцёўню, не раз апісаную іншымі цікаўнымі наведнікамі. Вось вядомы дубовы стол, дзе Быкаў прымаў шаноўных гасцей (месца гаспадара ўгадваецца беспамылкова). Вось фатэль-гайданка, далей — прайгравальнік. Па кружэлках няцяжка здагадацца, што сёння Быкаў быў бы аматарам аўдыякніг: вінілы з запісамі твораў Коласа, Твардоўскага, Купалы... Увесь час на вас пазірае таемная незнаёмка ўсходняга тыпу. Хто гэта — не ведаюць нават музейшчыкі.

На выпадак, калі падчас рэлаксу пад вершы Купалы замерзнеш, Быкаў падрыхтаваў яшчэ адну хованку: знайдзіце бочачку з ручкай у выглядзе чорта і папрасіце музейшчыкаў раскрыць яе таямніцу.

### ШЛЯХТА АД СЛОВА «ШЛЯХ»

Па ўсім доме знаходзяцца сувеніры са шматлікіх вандровак Быкава. Большасць рэчаў раскрывае гарэзлівасць суровага на выгляд пісьменніка. Што да саміх вандровак, найбольш пра гэта распавядае былы гараж: там і замалёўкі з натуры, і маршруты, маляваныя рукой Быкава, і мапа, якая пазначае краіны, дзе пісьменнік бываў. Зноў жа, кнігі. Гэтым разам — па аўтамабільным майстэрстве. Ёсць нават даведнік для кіроўцаў — вельмі ёмісты, карысны, хоць і трошку небяспечны. Даішнік наяўнасць такога даведніка ў аўтамабілі яўна не ўхваліў бы.



У гасцёўні — таямнічая незнаёмка і галасы класікаў.



Кубачак эспрэса, рабочая атмасфера.

І менавіта ў гаражы знаходзіцца галоўная на сёння цікавостка музея: тое самае венскае крэсла, з розгаласам адваяванае ў вушацкіх уладаў і рэстаўраванае. Выразна бачныя ініцыялы, пакінутыя малым Васілём: Б. В. Х. Уладаром вынесенага з пакінутай школкі крэсла ён пазначыў бацьку — на ўсялякі выпадак, раптам што. Пасядзець на крэсле не дадуць, але яго гісторыю распавядуць абавязкова. Гэтаксама для вас падрыхтавалі вытрымкі з кнігі Быкава «Доўгая дарога дадому» — успаміны пра дзяцінства, расповед пра родны дом і бацькоў. Крэсла экспануецца ў межах выстаўкі аднаго прадмета «Усе мы родам з дзяцінства... ». Пабачыць яго можна да 20 мая ўключна.

Шляхі Быкава захаваліся на адмысловай мапе.

### ЗАСТЫЛАЯ ПАЛІТРА

Увогуле, лецішча Быкава тыпова савецкае: прыземістыя канапкі, фатэлі з драўлянымі ручкамі (такія штодзень аддаюць задарма ці вывозяць на лецішчы), тагачасныя кнігі (вядома, ёсць паэтычныя зборнікі сябра Рыгора). Аднак самы тыповы пакой — кухня. Посуд з алімпіяднымі выявамі і датамі Вялікай Перамогі, мэбля, кафля ў рабочай зоне. Зрэшты, якраз на кухні месцяцца вядомыя малюнкі Быкава, якія можна назваць кухоннымі фрэскамі: пісьменнік разбавіў савецкую атмасферу па-дзіцячы мілымі выявамі садавіны й гароднiны.

На другім паверсе месціцца адзіны выключна музейны астравок — маленькая экспазіцыя з фотаздымкамі, друкапісамі і лістамі, партрэт Васіля Быкава (мяркую, ён з'явіўся тут пасля; наўрад ці Быкаў сам на сябе любаваўся). Як на мяне, самае цікавае тут — некалькі першых старонак друкапісу «Знака бяды». На ім — рэдактура самога Быкава, які палічыў мэтазгодным змяніць жанр твора і яго назву (новы варыянт сапраўды лепшы за «Час прыйдзе»).

Пра наяўнасць у доме гаспадыні сведчанняў мала. Хіба пара кніжак — пра кветкаводства і «вострыя куты сямейных стасункаў», мілыя шпалеры ў кветачку ды выявы ў малюнках Быкава. А вось яшчэ сведчанні мастацкага «хобі» пісьменніка: цэлая студыя, у якой музейшчыкі захавалі рабочы дух. Захаваныя карціны, быкаўскія і падараваныя яму, мастацкія прыналежнасці, нават палітра.

Пасля агляду вы, напэўна, захочаце пагрэцца. У двары — маляўнічыя бярозы, мяркуючы па ўзросце, пасаджаныя тут задоўга да прыезду Быкава, яблыні, барбарыс (ён нават плодны). Было б няблага пасядзець у альтанцы, але яна пакуль закрытая: патрэбная рэстаўрацыя.

Галоўнае, што дае наведванне лецішча Быкава, — разуменне, што ён быў не такі ўжо сур'ёзны і халодны. Многае тут сведчыць пра самаіронію, добры гумар пісьменніка, словам, пра тое, што нішто чалавечае класіку не было чужым...

**P. S.** Па дарозе ў Мінск запыніцеся ля ждановіцкай царквы. Гэта навабуд, але ёсць і ў ім цікавосткі. Па-першае, знешні выгляд: на фоне зялёных сосначак ружова-пунцовы будынак выглядае даволі экстравагантна. Па-другое, спісаныя імёнамі сцены ў самой царкве. Як распавяла мясцовая служыцелька, гэта імёны ахвяравальнікаў: даеш грошай на будоўлю — застаешся ў вечнасці. Па ўсім відаць, ахвотных дапамагчы царкве многа: спісаныя ўсе цаглінЫ па перыметры храма, ад падлогі і метры на два ўгору. Нават за алтаром. Кошт вечнага даравання (за вас будуць маліцца) — тры рублі (адна цагліна). Будоўля працягваецца, службы ідуць...

**Наста ГРЫШЧУК,**
**фота аўтара**

# ВЯЛІКАЯ ПАДАРОЖНАЯ ГІСТОРЫЯ,

## альбо Кнігі Скарыны ў Вільнюсе

«Малая падарожная кніжка» пачала сваё вандроўкі ў межах праекта, прымеркаванага да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Асобнік першай друкаванай кнігі, што нядаўна з'явіўся ў Беларусі, цяпер прадстаўлены ў вільнюскім Нацыянальным музеі «Палац вялікіх князёў літоўскіх».

Праект «Шляхамі Скарыны з Белгазпрамбанкам» скіраваны на тое, каб праз асобу нашага першадрукара і станаўленне айчыннай кніжкай культуры прадставіць Беларусь, падкрэсліўшы гістарычную сувязь з культурамі іншых краін Еўропы. Дзеля гэтага задумана вялікае падарожжа разам гэтай кнігай (а таксама іншымі выданнямі) па розных краінах, якое пачалося з горада, дзе Францыск Скарына пачаў сваю справу.

Насамрэч «Малая падарожная кніжка» — гэта зборнік, які ўтрымлівае ў сабе 18 кніг, для таго, каб у чалавека, які знаходзіўся ў дарозе, была магчымасць працягваць духоўнае чытво і маліцца. Некаторыя з іх утрымліваюць пасляслоўі Скарыны. Таксама прадстаўленая «Кніга Іава» (1517 года выдання) з калекцыі рарытэтаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Усе кнігі Скарыны, што захаваліся на дадзены момант у свеце, палічаны — іх 520, і большасць — у іншых краінах. Таму для Беларусі асабліва каштоўны кожны набытак арыгінальнага выдання першадрукара. Мы імкнёмся ўзнавіць яго спадчыну тымі сродкамі, якія падаравала цывілізацыя. Нават гатовыя падзяліцца з суседзямі, для якіх Францыск Скарына з Полацка — таксама частка слаўнай гісторыі. Такім чынам, Нацыянальная бібліятэка Літвы імя М. Мажвідаса атрымала ў падарунак факсімільнае выданне «Кніжная спадчына Францыска Скарыны» ад Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. У гонар нашага першадрукара адбыўся круглы стол «Францыск Скарына. 500-годдзе кнігадрукавання ў Беларусі і Літве», у якім узяў удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Аляксандр Кароль. Таксама падарункі факсімільнага выдання атрымалі Бібліятэка Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх, Бібліятэка Вільнюскага ўніверсітэта і бібліятэка Вільнюскай гімназіі імя Ф. Скарыны.

Выданне каштоўнае тым, што арганізатары праекта ставілі мэту сабраць электронныя копіі экзэмпляраў выданняў Скарыны, якія былі раскіданыя па ўсім свеце. Праект стаў магчымы дзякуючы супольнай працы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і Банка БелВЭБ. Адзіная калекцыя факсімільных выданняў усё ж такі знаёміць са спадчынай першадрукара, а таксама дае магчымасць паглыбіцца ў тэксты, якія ён лічыў важнымі, праз якія імкнуўся размаўляць з людзьмі, адкрыўшы ім Сусвет ведаў. Цяпер праз іх яго краіна вядзе дыялог са светам.

**Марыя АСІПЕНКА**

# ДЫЯМЕНТЫ ТАЛЕНТУ:

## да 110-годдзя Наталлі Вішнеўскай

У 1926 годзе ў Мінску адбылася не зусім звычайная для таго часу падзея: выйшаў сумесны зборнік вершаў, трыма аўтаркамі якога былі жанчыны, дакладней — маладыя дзяўчаты: Зінаіда Бандарына, Наталля Вішнеўская і Яўгенія Пфляўмбаўм. Сучасныя даследчыкі ацэньваюць гэтую кнігу як «новую феміністычную з'яву ў літаратурна-грамадскім жыцці» (Ірына Багдановіч, «Авангард і традыцыя», 2001). І калі ўжо закранаць гендарны аспект, то менавіта згаданыя тры аўтаркі вылучаліся найбольшай актыўнасцю сярод іншых паэтак тагачаснага літаратурнага аб'яднання «Маладняк»: у 1920-х гг. іх вершы перыядычна друкаваліся на старонках газет і часопісаў. Але далейшы іх жыццёвы шлях нельга назваць спрыяльным для паэтычнай творчасці. Толькі ў канцы 1980-х, пасля больш як паўвекавога пісання ў шуфляду, здолела вярнуцца ў літаратуру Яўгенія Пфляўмбаўм. Напаўзабытай засталася заўчасна памерлая ў 1959 г. Зінаіда Бандарына, а многія яе творы не апублікаваныя дагэтуль. Але ў яшчэ гусцейшым цені засталося імя Наталлі Вішнеўскай: у даведніках і энцыклапедыях яно пачало з'яўляцца толькі з 1990-х.

Нарадзілася Наталля Вячаславаўна Вішнеўская 3 мая 1907 г. у горадзе Коўна (цяпер Каўнас, Літва) у сям'і настаўнікаў. Падчас Першай сусветнай вайны (1914 — 1922) Вішнеўскія жылі ў эвакуацыі ў Самарскай губерні. Паводле ўласнага прызнання, вершы Наталля пачала пісаць у 1922 годзе, калі сям'я прыехала на Беларусь і пасялілася ў Капыльскім раёне. Менавіта тады талент юнай паэткі заўважыў і падтрымаў Якуб Колас, які выкладаў яе маці беларускую мову на настаўніцкіх курсах у Слуцку і першым заўважыў талент маладой паэткі. Ён жа дапамог Наталлі паступіць у мінскі Белпедтэхнікум, дзе таксама выкладаў.

У беларускай сталіцы Наталля Вішнеўская актыўна ўключылася ў літаратурнае жыццё. Пасябраваўшы з Зінаідай Бандарынай, уступіла разам з ёю ў «Маладняк». Акрамя ўжо згаданага «феміністычнага» зборніка «Вершы», творы Н. Вішнеўскай з'яўляліся на старонках часопісаў «Маладняк», «Чырвоны сейбіт», «Полымя», у газеце «Савецкая Беларусь» і літаратурным дадатку да яе. У асобных вершах («Да Дня жанчыны», «Беларусь», «Камсамольскі паход») яна звярталася да грамадзянскай тэматыкі, але большасць з іх мелі асабісты характар — як пісаў крытык М. Байкоў, — суб'ектыўны лірызм. Менавіта ў такіх вершах і праявіўся найбольш яскрава талент Н. Вішнеўскай. Іх гераіня — маладая дзяўчына з усёй уласцівай ёй гамай пачуццяў: яна кахае і захапляецца, марыць і спадзяецца, радуецца і смуткуе... Яна не проста эмацыянальная, а здольная сваёй эмацыянальнасцю запоўніць усю навакольную прастору:

*Плакала дзяўчына... Сыпаліся слёзы,*
*Ручаінай беглі пацямнелым долам,*
*Абмывалі ногі белае бярозы,*
*Зіхацелі росна... зіхацелі полем.*

Нямала ў Н. Вішнеўскай і пейзажнай лірыкі, але гэта так званыя настраёвыя пейзажы, якія, зноў жа, шмат у чым адбіваюць уласны ўнутраны стан гераіні. Свае вершы паэтка імкнулася аздобіць яркімі, прыгожымі (паводле семантыкі) эпітэтамі: так, раса ў яе — брыльянцістая, слёзы — дыяментавыя, далеч — крыштальная, хмары — залатыя, вусны — пурпуровыя...

У канцы 1927 ці на самым пачатку 1928 г. Наталля Вішнеўская выйшла замуж за вядомага паэта, сакратара «Маладняка» Алеся Дудара. Аднак у сакавіку 1929 г. А. Дудар быў арыштаваны за «контррэвалюцыйныя» вершы і высланы ў Смаленск. Жонка «ворага народа» ў тым самым годзе цудам здолела закончыць Белпедтэхнікум і паступіць у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Неўзабаве ёй зрабіў прапанову іншы паэт-маладняковец — Алесь Звонак, і разам з новым мужам Наталля Вішнеўская ў 1930 г. пераехала ў Маскву. Праз чатыры гады сям'я вярнулася ў Мінск, а ўвосень 1936 г. Алеся Звонака арыштавалі. Апынулася ў «амерыканцы» і Н. Вішнеўская, але неўзабаве яе вызвалілі. Пэўны час яна разам з маці хавалася ў цётکі на Украіне, а потым пераехала ў Ленінград, дзе яе трэцім мужам стаў паэт Янка Бобрык, які тады атрымаў працу галоўнага рэдактара Упраўлення па справах мастацтва Ленінградскага гарвыканкама.

У час Вялікай Айчыннай вайны Наталля Вішнеўская працавала ў дзіцячым доме, разам з ім і эвакуявалася ў Горкаўскую вобласць. А вось Янка Бобрык, колькі яго ні ўгаворвалі, вырашыў застацца ў Ленінградзе. Там ён і памёр 25 жніўня 1942 г. Калі вайна скончылася, Н. Вішнеўская вярнулася ў пустую кватэру: у блакадным горадзе загінулі і ўсе рукапісы Я. Бобрыка. Чацвёрты раз выходзіць замуж Н. Вішнеўская ўжо не адважылася — на яе душы было і без гэтага зашмат ранаў. Яна адна выхавала двух хлопчыкаў з дзіцячага дома — абодва сталі капітанамі далёкага плавання.

Да самага выхаду на пенсію, у 1962 годзе, Наталля Вішнеўская працавала ў бібліятэцы Стаматалагічнага інстытута. «На сваёй сціплай пасадзе Наталля Вішнеўская трымалася з вялікай годнасцю. Яна была вельмі ўладарная, важная. Я здзіўлялася, калі да яе ў кабінет заходзілі людзі і не ведалі, як ля яе стаяць, як размаўляць з ёю. Усе ставіліся да яе з вялікай павагай», — успамінала пляменніца Алеся Звонака Нэлі Аляксандраўна, з якой мне аднойчы давялося сустракацца.



*Наталля Вішнеўская.*

Памерла Наталля Вішнеўская 3 мая 1989 г. Да паэзіі яна так і не вярнулася. Але засталася яе эпісталярная спадчына, якая цяпер захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Гэта каля 100 лістоў і паштовак да паэта Сяргея Грахоўскага, напісаных у 1961 — 1989 гг. Некаторыя з іх апублікаваў у газеце «Голас Радзімы» (1999, 24 чэрвеня — 1 ліпеня; 8 ліпеня) Леанід Маракоў, аўтар артыкула «Тры замужжы Наталлі Вішнеўскай» («Голас Радзімы», 1999, 10 — 17 чэрвеня). У гэтых лістах — і трапныя характарыстыкі беларускіх пісьменнікаў, і малавядомыя гістарычныя факты, і прагнае жаданне пабываць на Беларусі, якое, на жаль, так і не здзейснілася...

Выглядае сімвалічным, што ў гэты юбілейны для Н. Вішнеўскай год убачыла свет анталогія жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы». І пачэснае месца ў ёй займае нізка яе вершаў.

**Віктар ЖЫБУЛЬ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**вядучы навуковы**
**супрацоўнік БДАМЛМ**

**Фота з фондаў БДАМЛМ.**

# Рэха забытых імёнаў

Ёсць у нашай літаратуры імёны, якія ад бясследнага знікнення ў бездані часу ратуюць хіба рэдкія згадкі ў аглядных артыкулах. Або творчыя здабыткі былі настолькі нязначнымі, што іх ніхто не заўважыў; або пісьменнік нечым «правініўся» перад часам, у які яму давялося жыць, і сучаснасць «зрабіла выгляд», што ні яго самога, ні твораў, напісаных ім, ніколі не існавала.

У артыкуле «Творы і лёсы забытых пісьменнікаў» («Маладзечанская газета», 14.08.2012) краязнаўца Міхась Казлоўскі згадваў імя Ларысы Марушкі. У Нацыянальнай бібліятэцы захоўваецца выдадзеная ў 1992 годзе «Мастацкай літаратурай» кніга яе аповесцяў «Надзя, Надзея…». І гэта, бадай, усё. Дык чым жа правінілася Ларыса Марушка перад сваім часам?

Калісьці вялікую зацікаўленасць гэтай асобай выказваў пісьменнік, крытык, літаратуразнаўца Яўген Лецка. У жніўні 2011 года ў пошуках інфармацыі пра забытую постаць ён звярнуўся ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Паводле запісаў, якія захаваліся ў дырэктара архіва-музея Ганны Запартыкі, Марушка — гэта трэцяе прозвішча пісьменніцы. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны Ларыса Яцына выйшла замуж і ўзяла прозвішча мужа — Усціменка. Яе муж знік без вестак падчас вайны. У пісьменніцкім асяроддзі хадзілі чуткі, што Л. Усціменка была вывезена нямецкім афіцэрам у Германію, дзе працавала афіцыянткай. Пасля вайны яна настаўнічала на Пружаншчыне і пачала публікавацца ў літаратурных выданнях. На семінары маладых пісьменнікаў вельмі прыгожая, вясёлая, энергічная Ларыса Усціменка пазнаёмілася з Андрэем Макаёнкам… Каханне было ўзаемным, маладыя людзі нават прызначылі дату вяселля.

Аднак напярэдадні А. Макаёнка выклікалі ў адпаведную ўстанову і «патлумачылі», што, калі яго жонкай стане асоба з такой сумнёўнай рэпутацыяй, яго драматургічная кар'ера скончыцца — ён пазбавіцца партыйнага білета і магчымасці друкаваць свае творы і бачыць іх сцэнічнае ўвасабленне… У няпростым змаганні паміж каханнем і творчасцю перамагла апошняя.

Праз некаторы час пісьменніца займела іншы «запіс» у сваёй біяграфіі — яе мужам стаў маладзейшы на пятнаццаць гадоў хлопец з прозвішчам Марушка. Менавіта пад гэтым прозвішчам яна выдала ў канцы 1950-х гадоў кнігу прозы, а ў 1960-х з'ехала да дачкі ў Находку (горад у Прыморскім краі Расіі), дзе працавала ў дзіцячым садку. Памерла Ларыса Марушка ў Находцы.




*Ілюстрацыя да публікацыі аповесці Л. Усціменкі ў часопісе «Беларусь».*

У фондзе Саюза пісьменнікаў БССР, які захоўваецца ў БДАМЛМ, ёсць цікавы дакумент, які можа служыць выдатнай ілюстрацыяй расказанай гісторыі. Гэта афіцыйны зварот старшыні Саюза пісьменнікаў БССР Петруся Броўкі да сакратара Бабруйскага абласнога камітэта КП(б)Б Мікалая Красоўскага ад 23 верасня 1949 года:

*Паважаны Мікалай Ільіч!*

*Праўленне Саюза Савецкіх пісьменнікаў БССР звяртаецца да Вас з вялікай просьбай — дапамагчы яму вырашыць пытанне наконт адной маладой пісьменніцы — Ларысы Усціменка, аўтара аповесці «Мы будзем жыць», надрукаванай у часопісе «Беларусь».*

*Мяркуючы па гэтай аповесці, а таксама па іншай ужо напісанай, пра калектывізацыю ў Заходніх раёнах, мы маем справу з бясспрэчна адораным чалавекам, які мог бы прынесці карысць і народу, і літаратуры. Цяпер Усціменка працуе над трэцяй аповесцю «Паланянка» — пра барацьбу за мір. Празаікаў у нас увогуле нямнога, а жанчын-пісьменніц і таго меней. Хацелася б захаваць яе ў літаратуры.*

*Але ўжо пасля публікацыі аповесці «Мы будзем жыць» да нас дайшлі чуткі, якія кампраментуюць Усціменку. <…>*

*Між тым трэба вырашаць яе лёс, як пісьменніцы, — друкаваць альбо не друкаваць яе творы далей. Гэта залежыць ад таго, наколькі яна сапраўды скампраментавала сябе падчас бытнасці сваёй у акупацыі.*

*Калі меркаваць паводле яе расповедаў і лістоў, з якімі мы Вас ахвотна пазнаёмім, яе праца на тэрыторыі, акупаванай ворагам, не перашкодзіла ёй пасля працаваць у дастаткова адказных органах ваеннага часу ў Савецкай Арміі. <…>.*

*Паколькі гаворка ідзе пра жывога чалавека, ды яшчэ таленавітага, нам хацелася б праявіць асаблівую ўважлівасць і асцярожнасць, каб вырашыць справу правільна, на падставе ацэнкі таго, што было ў сапраўднасці».* (Ф. 78, воп. 1, спр. 38, с. 300; цытуецца ў перакладзе, мова арыгінала — руская).

Аповесць «Мы будзем жыць» (№№ 4 і 5 часопіса «Беларусь» за 1949 год), нягледзячы на моўныя хібы, сапраўды вылучаецца на фоне шматлікай плыні тагачасных твораў пра вайну. Старшы лейтэнант Малін чытае саладатам сваёй часці дзённік маладой камсамолкі Зоі, знойдзены ў адной з вызваленых вёсак. У чэрвені 1941 года Зоя атрымала медыцынскі дыплом і прызначэнне загадчыкам бальніцы ў вёску на Брэстчыне. Менавіта там яе заспела вайна і акупацыя. У дзённіку Зоя апісвае свой удзел у падпольнай працы на акупаванай тэрыторыі.

Пісьменніцы нейкім чынам удалося абстрагавацца ад застылых у патрыятычна-гераічнай паставе карцін і стварыць паўнавартасную ілюзію эмацыянальнай споведзі са спецыфічна жаночым поглядам на падзеі, што адзначыў і П. Броўка. Арыгінальнасць мастацкага ракурсу, бясспрэчна, робіць творчую спадчыну Л. Марушкі вартай увагі літаратуразнаўцаў. Хочацца спадзявацца, што гэтая тэма знойдзе свайго даследчыка.

**Жана КАПУСТА**

# «Новую складзеш замову,

## каб не скралі продкаў мову!»

Чараўніком слова ў нас зазвычай завуць Рыгора Барадуліна. Сапраўды, такое паэтычнае прадзіва, як ён, мала хто мог стварыць. Аднак ёсць яшчэ адзін вялікі гукапісец, здольны са звыклых слоў выкрасіць жывы агонь. Гэта Сяргей Панізьнік, які толькі-толькі адзначыў 70-годдзе. Сугучна пяцісотгоднасці, якую мы сёлета святкуем, можна сказаць, што Сяргей Сцяпанавіч адзначыў сямідзесяцігоднасць.

Сведчаннем таму — кніга «Гасцінцы з пуцявін-гасцінцаў». Гэта зборнік вершаў, адрасаваных дзецям — ад дашкалятак да старшакласнікаў. Усе тэксты выбраныя з ранейшых кніг: «Адкуль вясёлка п'е ваду» (1981), «Жыцень» (1986), «Мы — грамацеі!» (1989, пад псеўданімам Сяргей Папар), «Золкая зёлка» (1999), «Літары ў расе» (2011). Вершы, вядома, аўтарскія, аднак можна сказаць — напалову. Чаму? Суаўтарам Сяргея Панізьніка нязменна выступае самая мова, народная спадчына, якой, бы вады з крыніцы, шмат не вып'еш: заходзіцца душа. Сяргей Сцяпанавіч доўга збіраў народныя песні, прымаўкі (ці прыбабунькі, як піша ён у адным з вершаў), показкі, і ўвесь гэты вялікі скарб трансфармаваўся ў паэзію.

Так, адрасат у кнізе пазначаны, аднак надта легкадумна сцвярджаць, што гэтая кніга — дзіцячая. Сюжэты вершаў, магчыма, якраз для дзяцей, але выкананне... Сяргей Панізьнік цудоўны мовазнаўца (у сэнсе інтуітыўнага адчування мовы, ведання яе прыхаваных цікавостак). Кожны вершык яго, нават самы немудрагелісты, — непаўторны, і сам ён ні ў чым не паўтарае вядомыя нам аўтарскія вершы для дзяцей. Вызначальныя рысы гэтае паэзіі — гукапіс поруч з алітэрацыяй («гукапісы — наўсцяж»), гранічная насычанасць беларускасцю (ад пачування сябе менавіта беларусам да тых самых скарбаў народнай мудрасці), сур'ёзны гістарычны складнік (які, аднак, уплецены ненавязліва і служыць аздобай, а не абцяжарваннем). Што таксама важна, Сяргей Панізьнік у зваротах да дзетак не прымярае на сябе ролю чалавека-ўсязнаўцы, чапурыстага павучальніка. Ён сам падобны да аднаго са сваіх персанажаў, да гумарыста-Бая, які ведае процьму займальных гісторый і валодае дарам апавядальніка. Не ставячы пад сумненне талент Сяргея Панізьніка як паэта, можна смела казаць, што без фальклору, без шматгадовага збору народных слоўцаў ён быў бы зусім не той, і вершы былі б на парадак ніжэйшыя па мастацкай значнасці.

«Гасцінцы з пуцявін-гасцінцаў» падзеленыя на тры часткі, і падзел скіраваны найперш на ўзрост чытача: для самых маленькіх — «Чароўныя чаравічкі...», затым — «Я, любоў, Беларусь!», і самым дарослым — «Жылі волаты ля Волты». Падзел гэты мае і графічнае ўвасабленне — прасцей кажучы, розніца памер шрыфтоў (ход наколькі просты, настолькі ж і ўдалы). Між тым і чытач, і аўтарка прадмовы Аксеня Тарасевіч сыдуцца на адным: падзел умоўны. І найперш, зноў жа, дзякуючы мове паэта, якая для



Фота Насты Грышчук.

малечы будзе гучаць як выдатна рытмізаваная лічылка, песенька і пад. і ў якой старэйшыя ўбачаць, а хутчэй нават адчуюць вялікую сілу слова. Сапраўды, як кажа сам аўтар, ён складае новую замову, сцвярджае жыццяздольнасць беларускае мовы. Гэтая мова розніцца ад мовы школьных падручнікаў, газет, сучаснае літаратуры, гутарковай мовы. У ёй напраўду (хоць і прагучыць штампам) дыхаюць вякі. Асобныя вершы, дзе няма спасылак на сённяшняе гарадское жыццё, на нейкія канкрэтныя рэчы сучаснага чалавека, гучаць пазачасава. Тое ж самае маглі прамаўляць вешчуны ў старажытнай пушчы, тыя ж песні магла співаць маці, схіліўшыся над тысячагадовай калыскай.

Акром найяскравейшай ілюстрацыі-доказу, што мова беларуская не ўмёрла, кніга дае яшчэ й бясцэнныя веды па гісторыі, у тым ліку гісторыі побыту беларусаў. Адзін толькі верш — «На хутары продкаў» (напісаны, дарэчы, пасля наведвання «Сялянскай хаты» ў Мёрах, пра якую мы распавядалі ў мінулым нумары) — зробіць сур'ёзны ўнёсак у вашую адукацыю. Лубка, гунька, панарад, ашака, сівалка, шлюгавіна, дыля, батоўе, жэгіны, шалёўка, крушак, закот, цурубалкі, рэзьгіні, курня — ці ведаеце вы, што гэта?.. Панізьнік ведае і шчодра дзеліцца ведамі з чытачом. Як піша ён сам, «я паясняю глосы». Не скарыстацца такой шчодрасцю папросту неразумна.

Ёсць вершы-песні, сапраўдныя, што называецца, аўтэнтычныя. Ёсць урокі мовазнаўства («*Мытня* ёсць, таможня ёсць, / Тратуар і *ходнік*...»). Ёсць «скарбніцы» сінанімії: Коўш, Чаша, Карэц, Вянец, Сіта, Вялікі Воз — усё Вялікая Мядзведзіца. Словам, «Гасцінцы з пуцявін-гасцінцаў» варта займець не толькі бацькам, але ўсякаму, хто яшчэ не гатовы спісаць беларускую мову ў шэрагі мёртвых рэліквій.

**Андрэй ЖБАН**

# ПАЗНАЧАНЫЯ ЭПОХАЙ

Колькі б пісьменніцкіх біяграфій ні з'яўлялася ў акадэмічных працах, згадкі і ацэнкі сучаснікаў — сяброў, калег, вучняў, рэдактараў — нязменна прыцягваюць асаблівую ўвагу. Магчыма, найперш таму, што ў іх заўсёды ёсць нешта ўнікальнае, непаўторнае, хай сабе нават і спрэчнае, але захаванае ў памяці толькі аднаго чалавека. Менавіта гэтым прываблівае кніга Васіля Макарэвіча «Свято імёнаў дарагіх: творчыя партрэты беларускіх пісьменнікаў», якая пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці» ў 2016 годзе ў серыі «Асоба і час».




На вокладцы кнігі — пазнавальныя партрэты яе герояў — А. Вялюгіна, А. Куляшова, С. Грахоўскага, А. Наўроцкага, М. Мятліцкага, К. Камейшы, А. Салтука, В. Гадулькі ды іншых. Аўтар імкнуўся не проста нагадаць чытачам ужо вядомыя факты жыццёвага і творчага шляху, але «зазірнуць» у мастацкую лабараторыю, знайсці вытокі тэмаў, стыляў, метадаў і тэхнік. Ствараючы кожны асобны партрэт, В. Макарэвіч шмат увагі аддае ўзаемасувязям пісьменніка і асяроддзя, адзначае, як змены ў грамадска-палітычным ладзе вялі за сабой змены ў паэтычных рытмах. Досвед, набыты аўтарам падчас працы ў рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага радыё, дазволіў яму ўзбагаціць змест кнігі згадкамі пра асабістыя сустрэчы з пісьменнікамі падчас сумеснай працы. У гэтым сэнсе вялікую цікавасць выклікае раздзел «Пазначаны эпохай», прысвечаны Сяргею Грахоўскаму. В. Макарэвіч спрабуе прааналізаваць творчую эвалюцыю паэта, які трапіў у ГУЛАГ, па сутнасці, нясмелым пачаткоўцам, а вярнуўся ў літаратуру сталым творцам. Васіль Макарэвіч на старонках гэтага раздзела задае шмат пытанняў, адказы на якія дапамагалі разгадаць «феномен вяртання» Сяргея Грахоўскага. Не раз даводзілася чуць, што ён, бадай, адзіны з тых рэпрэсаваных пісьменнікаў, якім пашчасціла не толькі выжыць, але і напоўніцу раскрыць свой талент, па-сапраўднаму адрадзіцца ў творчай актыўнасці пасля вяртання. Аналіз паэзіі, прозы самаго С. Грахоўскага, а таксама ацэнак, выказаных сучаснікамі, уводзіцца аўтарам кнігі ў шырокі кантэкст грамадска-палітычнага жыцця. І гэта датычыць не толькі названага раздзела.

Шмат няпростых пытанняў знішчэння творчай асобы сістэмай закранаецца ў раздзеле пра Алеся Наўроцкага «На ўвесь голас»: «*...нечаканае маўчанне, якое прыйшло да аднаго з нашых самых таленавітых паэтаў-наватараў, эксперыментатара і першаадкрывальніка, як новых форм, так і інтанацыйнай рытмікі ў паэзіі Алеся Наўроцкага, неапраўдана зацягнулася да канца яго дзён*». Васіль Макарэвіч супрацьпастаўляе паняцці творчага крызісу як складанага духоўнага перыяду ў жыцці творчай асобы і творчага крызісу, штучна выкліканага цкаваннямі і праследам.

Вылучаюцца адрознай — прыўзнята-бадзёрай інтанацыяй раздзелы, прысвечаныя пісьменнікам, чый творчы шлях доўжыцца ў сучаснасці: М. Мятліцкаму, У. Карызну, Г. Пашкову, К. Камейшу, М. Маляўку. У кантэксце ваеннай прозы разглядаюцца здабыткі У. Федасеенкі і А. Дзятлава. У заключным раздзеле «Сямейная малітва» пра І. Катлярова і С. Шах зроблены акцэнт на спецыфіцы развіцця рэлігійнай паэзіі на постсавецкай прасторы.

Найбольш цікавым у кнізе падаецца менавіта тое, што В. Макарэвіч прапаноўвае не проста разгляд паасобных твораў ці асобных жыццёвых перыядаў, але стварае паўнавартасную карціну творчай эвалюцыі пісьменніка. У гэтым сэнсе кніга «Свято імёнаў дарагіх» сапраўды будзе цікавая не толькі філолагам і аматарам беларускага прыгожага пісьменства, але і школьнікам, студэнтам, выкладчыкам сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў.

**Яўген ГЛЕЧЫК**

*Надрукавана ў «Маладосці»*

# НЕРЭАЛЬНАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ

Калі літаратура — гэта прафесія, то атрымліваць асалоду ад чытання ёсць вялікай праблемай. Магчыма, так жа, як кухару цяжка забыцца падчас вячэры на сваю прафесію і быць проста чалвекам, які каштуе новыя стравы. Калі быць чытачом — гэта прафесія, то колькасць літаратурных твораў, ад чытання якіх можна проста атрымліваць асалоду, не такая ўжо і вялікая. Аднак апавяданне Кацярыны Мядзведзевай «Агеньчык», змешчанае ў № 4 часопіса «Маладосць», безумоўна, адно з гэткіх.

Галоўны герой — міфічны Агеньчык — заваблівае нешчаслівых людзей абяцаннем здзейсніць запаветнае жаданне, а наўзамен — не, не закласці душу… Адплатай становіцца падпарадкаванне падступнаму псіхалагічнаму плану, і ў выніку — жаданае становіцца недасяжным. Напрыклад, казачніца Янка атрымлівае магчымасць кіраваць лёсамі рэальных людзей, ствараючы пра іх гісторыі. Яе сюжэты неадменна ўвасабляюцца ў жыцці, але ніводзін з іх не павінен мець шчаслівай канцоўкі. Чалавек, прагны да імгненнага шчасця, пагаджаецца на ўмовы, прапанаваныя Агеньчыкам. Толькі нехлямяжая нямая прыслужніца вядзьмаркі-казачніцы з дзіўным імем Цішш адмаўляецца. Мабыць, таму, што не ёсць сапраўдным чалавекам, але толькі ўвасобленым у жыцці сваёй гаспадыняй персанажам. Сцэна, у якой Янка распавядае служанцы пра яе «несапраўднае» паходжанне, — адна з найлепшых у творы.

Магчыма, у гэтым сюжэце не кожная дэталь арыгінальная. Але тое, як кампазіцыйна ўсе сцежкі-дарожкі ўрэшце сыходзяцца, тое, як некалькімі важкімі штрыхамі створаныя вобразы герояў, апісанні палаца, у якім жыве Янка, і гарадскога рынку з гандляркамі і пляткаркамі, стварае абсалютна арыгінальны, самастойны мастацкі свет, у якім героям утульна, а ўсе дэкарацыі на сваім месцы. На фоне так распаўсюджанай у сучаснай маладой прозе стылёва-моўнай неахайнасці няспешная апавядальная плынь з удалай моўнай стылізацыяй сапраўды захапляе. Нельга адназначна сказаць, каго ж з герояў можна лічыць галоўным, бо ўсе яны для аўтара (і для чытача, і для развіцця сюжэта) аднолькава важныя. А ўрэшце і сам чытач нібы адчувае сябе адным з жыхароў таго напаўказачнага-напаўрэальнага мястэчка, дзе штораніцы Янка набывае на гарадскім рынку свежую зяляніну. Разам з тым, некаторыя сцэны (напрыклад, даволі падрабязныя апісанні смерці крыўдзіцеляў гарадской вядзьмаркі) выглядаюць, так бы мовіць, умоўна-бяскрыўдна, нібы ў дзіцячай казцы.

Спалучэнне, чаргаванне рэальнага і міфічнага... натхняе на роздум: а ці сапраўдны той агеньчык, за якім мы ідзём да сваёй мэты?

**Жана КАПУСТА**

Антось СПЯСІВЫХ



**Антось Спясівых нарадзіўся ў 1999 годзе ў Мінску. Літаратар і кінематаграфіст, навучэнец Ліцэя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкаваўся ў калектыўным зборніку Саюза пісьменнікаў Беларусі «Гэта наша з табой Перамога», намінант пятага фестывалю Smartfilm.**

Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»

## (Анты)утопія

*Не спрабуй мне ўначы зноў*
*прысніцца*
*І спаткацца цяпер не спрабуй,*
*Не спрабуй больш аўсом каласіцца,*
*Не спрабуй, мілы сон, не спрабуй.*

*Не спрабуй пасля Сонца заходу,*
*Калі зоры зазяюць ярчэй,*
*Падарыць мне якую нагоду*
*Для спаткання счарнелых вачэй.*

*І не кліч да сябе мілым гаем,*
*Не цягні да пустынных палёў,*
*Не жадаю я больш гэтых зграяў,*
*Не патрэбна мне гэтае шоу.*

*Пакуль снег на брывах не патаяў,*
*Пустазелле ўзыходзіць ізноў.*
*Не прымаю тваіх дзіўных правіл,*
*Менавіта таму і сышоў.*

*І няхай агонь ў сэрца патрапіў,*
*Не шукаю тваіх я шляхоў —*
*Не хачу, каб над сонечным краем*
*Пустазелле ўзыходзіла зноў.*

***

*Праз гады між глушы хмарачосаў,*
*У староны далёкай, чужой*
*Не пачую сяброўскага голасу*
*Ды не ўбачу сям'і больш сваёй.*

*І аднойчы ў чужое лагчыне*
*Запытаюць, дзе лёсу спакой.*
*Сумна я адкажу: на Радзіме,*
*Страпянуся слабою рукой.*

*І на рану мне соль: «Дзе Радзіма*
*У цябе, чалавек? Дзе твой лёс?»*
*Прамаўчаўшы ў адказ, зразумею:*
*Сам свой вецер свабоды я знёс...*

## Два Берагі

*Мы аднымі сцяжынкамі ходзім*
*Ды з адное крыніцы і п'ём,*
*Супрацьлегласці дзве ў карагодзе.*
*Хочаш плакаць? Спыніцца час, годзе!*
*Нам абодвум далі ўжо ў народзе*
*Неблагое імя,*
*А ты, быццам шчаня,*
*Шчасце бачыш у вечнае шкодзе.*

*Дні і тыдні ў змаганні праводзім,*
*Летуценняў шукаем шляхі,*
*Але цвёрда кажу вам: пастойце!*
*Разышліся ўжо берагі...*

*Мы аднымі сняжынкамі водзім*
*Па акне, за якім — чарназём,*
*Падабенствы адны ў карагодзе.*
*Ты смяешся? Цудоўна, бо годзе*
*Нам гуляць у баталіі ў флоце*
*Дзе няма караблёў,*
*Лепей той чарназём*
*Апрацуем у агульнай ахвоце.*

Анастасія СІЯНІНА



## Родны дом

*Маленькая кропачка ў дзіўным*
*бязмежжы*
*Касмічнага любага мне акіяна...*
*Струмені пачуццяў бруяць узбярэжжа*
*Душы, што ў гармоніі пераканана.*

*Радзіма Душы, несумненна, — ля Бога,*
*Але на Зямлі жыватворнай жыву я,*
*Дзе лес, лугавіна, дзе водару многа,*
*Вадзіцу пакратаць магчыма жывую...*

*Маленькая кропачка — Дом сэрцу Родны:*
*З язмінам, півонямі, промнямі бэзу,*
*Гарод, на якім гаспадарыш свабодна,*
*І двор, што з любоўю прымае гарэзу,*

*У летняй купелі — агністае збожжа,*
*Валошкі, зязюліны слёзкі, чарніцы,*
*Рабіна і ясень магутна-вяльможны,*
*У вішнях галіны... — як шчасцю*
*спыніцца!*

*Тут Роднае ўсё існуе і прыходзіць,*
*Змяняецца, зноўку дае нараджэнне —*
*Пануе Душы сакавітасць ў народзе,*
*Зямлі і Святой Вышыні Адраджэнне!*

***

*Навошта на часткі Зямлі падзяляцца —*
*Суцэльнасцю вобраза ў сэрца ўрастае,*
*І хочацца ад захаплення смяяцца,*
*Калі прыгажосць Яе шчыра вітае.*

*Маленства... Вялікае ўсё! Як пакратаць?*
*Юнацтву шоўк траў абдымае калені,*
*Любоў Маладосць шле да зорак у сваты,*
*А Сталасць здзяйсняе Зямлі пакланенне.*

*Улетку ідзеш — луг здаецца барвовым,*
*Праз месяц ён — жоўты, а потым —*
*і сівы...*
*Бяроза цвіце... Чабарочак гатовы...*
*А вось і пах ліпы густы і шчаслівы...*

*Салоўка зальецца — і не адарвацца!*
*З калодзежа вёдры нясеш —*
*плёскат чуеш...*
*Дом Родны... Куды яшчэ трэба спяшацца*
*Ад любай прыроды, Душу дзе ратуеш?..*

*Жанчына дзіця грудзьмі корміць нямнога,*
*Зямля ж нас частуе ўвесь век нескончона*
*І ўжо ад дзяцей не чакае благога:*
*Ні войн, ні атруты, ні здрад,*
*ні праклёну...*

***

*Дом Родны... У ім — мудрацоў пананаванне*
*І волатаў смелых турбота-ахова,*
*Аратага спеў на ўрачыстым світанні,*
*Служыцеля прапанаванае слова.*

*Дом Родны — Зямля, што*
*ў Далонях Сусвету —*
*На Радасць Яна Чалавецтва люляе!*
*Маленькая кропачка... Дом Родны гэта*
*І ўсё, што Святлом Божы Свет*
*наталяе!*

Валянцін СЕМЯНЯКА



## На малой радзіме

**Уладзіміру Мазго**

*Раніцай аўтобус па шашы імчыцца.*
*Папрашу кіроўцу ў Зэльве прыпыніць:*
*«Дай мне, браце, выйсці,*
*тут мая сталіца,*
*Дай ізноў на сэрцы раны загаіць.*

*Дай мне наталіцца водарам духмяным*
*Залатых палеткаў, кветкавых лугоў,*
*Дай мне не забыцца, як гучаць на ранні*
*Над малой радзімай песні жаўрукоў».*

*Я хачу прыпомніць кожную драбніцу,*
*Што хавае памяць з колішніх гадоў.*
*Я хачу напоўніць, бы каўшом з крыніцы,*
*Песнямі сваімі кут маіх дзядоў.*

*Тут знайду я сілы для штодзённай*
*працы,*
*Тут змагу нарэшце адпачыць душой.*
*Каб затым у думках зноў*
*і зноў вяртацца*
*У святыя месцы раніцы маёй.*

*Тут, здаецца, болей і цяпла і сонца,*
*Тут травінцы кожнай адаб'ю паклон.*
*Толькі тут шчаслівым быць*
*магу бясконца.*
*Толькі тут наяве ажывае сон.*

*Знаю, час не спыніш, скончыцца*
*сустрэча,*
*І вялікі горад пазаве ізноў.*
*Зэльва, ты заўсёды для мяне дарэчы!*
*Ты — мая радзіма, ты — мая любоў!*

## Цяглевічы

*Я прыеду ў Цяглевічы ранкам вясновым,*
*На парозе бацькоўскае хаты спынюся.*
*Апякуць, нібы дзіды, балючыя словы:*
*«Ты праездам ізноў ці нарэшце*
*вярнуўся?»*

*Што мне ім адказаць, гэтым сценам*
*амшэлым,*
*Светлым вокнам, якія мне сонца давалі?*
*Што сказаць гэтым грушам*
*і слівам здзічэлым,*
*Каб нарэшце за здраду мяне даравалі?*

*Што дарма гаварыць, як на розных*
*сцяжынах*
*Гэты ціхі куточак заўжды ўспамінаю!*
*Як у цяжкія дні вынаходжу хвіліну,*
*Каб узнесці малітву за моц свайго краю!*

*Як нясу праз гады памяць продкаў*
*памерлых*
*І падзяку ўсяму, што так дорага сэрцу!*
*Не, няма такіх слоў, і ніякія «перлы»*
*Не памогуць маё шкадаванне данесці.*

*Тут цяпер цішыня, тут шчырые*
*прырода,*
*Буйным колерам краскі рассыпаны*
*ў садзе,*
*Толькі птушкі натхнёна пяюць*
*пры нагодзе*
*Ды гуллівыя пчолы свой ранішнік*
*ладзяць.*

*Тут няма для мяне ўжо ніякага месца,*
*Тут ніхто, як калісьці, мяне не чакае.*
*Толькі кожная зёлка з надзеяй, здаецца,*
*Як на роднага, зноў на мяне пазірае.*



Фота Кастуся Дробава.

## Позняе пісьмо

*Дзень добры, мама! Шмат гадоў*
*Ты гэтага пісьма чакала.*
*І вось, твой сын, пішу ізноў*
*Табе — ні многа і ні мала.*

*Няхай снягамі сівізны*
*Даўно ўжо набрыняні скроні,*
*Але ў мае прыходзяць сны*
*Твае шурпатыя далоні.*

*Я адчуваю іх цяпло,*
*Яно з дзяцінства мне знаёма,*
*І ўспамінаю, як было*
*Утульна ўсім у нашым доме.*

*Я потым разумець пачаў,*
*Чаго ўсё гэта каштавала.*

*Як многа розных важных спраў*
*Зрабіць за дзень ты паспявала!*

*...Прайшлі гады — цяжкі іх след.*
*Даўно няма ўжо бацькі з намі.*
*Старая ісціна як свет —*
*Усё мяняецца з гадамі.*

*Ды рады я, што з намі ты,*
*Хаця жывеш сама складана.*
*Святло душэўнай дабрыні*
*Табой надзейна захавана.*

*Гучыць шторанак твой званок*
*Для ўсіх нас песняю вясёлай,*
*Як некалі: «Сынок, сынок,*
*Табе пара збірацца ў школу».*

# Сімачка

*Урывак з дакументальна-мастацкай аповесці «Вандроўка ў прастору бяды»*



Раіса БАРАВІКОВА

Зося не ўвайшла, а хутчэй не па ўзросце лёгка ўпырхнула ў кватэру — усё роўна як бы ўцякала ад некага.

— Вой, запыхалася, пакуль паднялася на твой трэці паверх. Не схацелася ліфт выклікаць, — зашчабятала з парога і тут жа працягнула цяжкаваты пакет: — На-а, гэта закатачкі мае хатнія ў слоіках, каўбаска самаробная, мяска… У Мінску такога ў магазіне не купіш.

— Дык ты дзеля гэтых закатачак вось так, з бухты-барахты, да мяне ляцела? А я ж ледзь не паўдня твайго званка чакаю, як дамаўляліся.

Ліна ўзяла пакет, пакруціла галавою: — Ну і напакавала ты! Хіба з прыпынку не магла патэлефанаваць, я ж бы цябе сустрэла. Падышла б да тралейбуса.

— Кінь, які тралейбус! — махнула рукою. — Я на таксі ехала і толькі на нейкую гадзінку да цябе, пакуль мая моладзь па горадзе прагульваецца. — Заўсміхалася, перадыхнула. — Ты ж пастаў кудынебудзь слоікі гэтыя. Табе яшчэ сувенір мае маладыя ў Мюнхене купілі, але я яго не брала з сабою. Вырашылі, што заўтра дзеці самі яго ўручаць.Табе спадабаецца.

— Ну пабачым, нават цікава стала: што ж яны там мне купілі?

— Не скажу, — хутка адказала Зося. — Маленькі сакрэт.

— Тады хадзем на кухню, — Ліна не без цікаваасці затрымала позірк на сваёй колішняй сяброўцы, і ўхвальная ўсмешка забегала па яе вуснах: — Стрыжку зрабіла! Валасы падфарбавала, ага-а? А табе так вельмі пасуе, гадоў дзесяць скінула. Слухай, глянь ты, сукенка ў цябе якая! Фасон як ад Кардэна!

— Дык жа зяць прыехаў, унучак, дачка, — Зося збянтэжылася, але ў голасе чулася радасць, і на той жа радаснай ноце яна дадала: — Гюнтэра я два гады не бачыла. А Сашка ў мяне ў мінулым годзе цэлы месяц быў. Катрынка сама яго прывозіла.

— Катрынка?

— Ну, Каця, Каця мая, — удакладніла Зося. — Мо памятаеш, у мяне бабуля была Кацярына, а яе ўсе Катрынаю звалі, дык і Кацю я зрэдку гэтак заву.

— У халадзільнік пастаўлю? — Ліна паглядзела на слоікі, якія толькі што выставіла з пакета на стол, потым на Зосю: — Ну, а як жа ты з унукам спраўлялася, калі амаль цэлы месяц у цябе быў? Ён што, ужо дзве мовы ведае?

— Ну так! — Зося засмяялася. — Калі зусім малы быў, яны яго спачатку толькі па-нямецку вучылі размаўляць. Вакол яго ўсе так размаўлялі. Мне Каця нават слоўнічак своеасаблівы склала, каб я магла з немаўляткам неяк паразумецца. Потым Сашка стаў падрастаць, яны з ім пачалі да мяне часцей прыязджаць. А ў мінулым годзе яму ўжо пяць гадкоў было. Дык калі на ўвесь ліпень у мяне застаўся, я з ім усё старалася размаўляць па тым слоўнічку. І раптам аднаго разу прыгналі карову з пашы, бяру я даёнку, і тут Сашка падбягае да мяне: «Бабо, ты шчо, вжэ корову ідэш доіты?» У мяне ледзь тая даёнка з рук не выпала. Ён неяк сам па сабе навучыўся нашай гаворцы. Суседзі ж да нас прыходзілі, дзеці да яго прыбягалі… Ён усё хутка, на хаду схоплівае. Такое дзіцятка расце разумнае! Ну пойдзем ужо з кухні, я тут табе адзін фотаздымак хачу паказаць і табе яго пакіну. Мне Гюнтэр копію зрабіў. Дзе ж гэта я сумку сваю прыткнула ў пярэднім пакоі?..

Калі яны ўжо сядзелі на канапе ў гасцёўні, Зося дастала з сумкі той фотаздымак:

— Пазнаеш?

Ліна адразу пазнала свайго бацьку: Божа, які яшчэ маладзюсенькі! Узіралася ў зжаўцелую, ужо злёгку выцвілую паперу і прыгадвала свае хатнія фотаздымкі: не, такога, зусім маладзенькага, бацькі на іх не было. Бацька з кімсьці стаяў у другім радзе. А перад імі на лаўцы сядзелі таксама маладыя два хлопцы: адзін іграў на скрыпачцы, другі — на гармоніку. І ў гэтым другім Ліна пазнала Зосінага бацьку.

— Глянь, дык твой бацька, аказваецца, на гармоніку ўмеў іграць?

— Мама казала, што добра іграў, а калі пад Магілёў дадому паехаў першы раз адразу пасля вайны і дазнаўся, што там ужо анікогачкі няма, я ж табе ўжо расказвала пра гэта, усе пастраляныя, хата спаленая, дык бацька назад вярнуўся. Ну і неўзабаве яны з мамаю і пабраліся, але ўжо за гармонік ён ніколі не браўся. Падарыў яго некаму. А здымак гэты вясною 45-га зроблены, якраз перад яго ад'ездам, — Зося ўздыхнула, апусціла галаву. — Ліначка, я цябе яшчэ раз папрасіць хачу, таму сёння і заскочыла да цябе, ты ўжо нічога такога не кажы заўтра ў дарозе Гюнтэру. Хвалююся я. Ён жа перажываць будзе, як быццам у нечым вінаваты. Ну, немец ён, немец. Малады немец. Яны з Кацяю вельмі добра жывуць. Навошта яму ведаць, што і як тут у нас некалі адбывалася. Гэта ж вайна была… Семдзесят гадоў з таго часу прайшло. Ён во і цяпер мне казаў, што яго дзед у ахове служыў, у ахоўным батальёне. А ахова — яна і ёсць ахова. Яго дзед не быў карнікам, ва ўсялякім выпадку не мог быць, — яна пагля дзела на Ліну нейкім зусім ужо ўмольным позіркам і дадала: — Я чамусьці ўпэўнена. Звычайны вайсковец, прызвалі, ну і пайшоў на вайну, куды паслалі…Ты Гюнтэру пра цяперашні час нешта расказвай, ёсць жа ў нас пра што расказаць.

— Добра, не хвалюйся, буду расказваць яму пра сённяшні час, — неяк паблажліва, быццам дзіцёнку, адказала Ліна. Яна зноў пачала разглядваць фотаздымак і чым больш узіралася ў бацьку, тым выразней з памяці пачыналі ўсплываць нейкія моманты з яе ўжо такога далёкага маленства: вось бацька купляе ёй сандалікі і тут жа абувае. У тых новых сандаліках яна бяжыць па драўляным тратуары, які тады быў у Бярозе. Нага трапляе ў дзірку між дошкамі, і яна, як ні спрабуе, ніяк не можа яе выкруціць. Пачынае плакаць. Выцягнуць яе нагу не атрымліваецца і ў бацькі, нага застрагла… І тады бацька бярэцца за дошкі. Божухна, які дужы бацька! Яму ўдаецца іх трошкі рассунуць… І вось ужо яна радасна затупацела, заскакала на тых дошках: «Ура-а, мой бацька асілак!..» Ліна міжволі ўсміхнулася гэтаму ўспаміну.

— Я вельмі добра памятаю твайго бацьку яшчэ зусім маладога, — адазвалася Зося, пабачыўшы, што Ліна зноў узіраецца ў фотаздымак. — Ён заўжды хлеб нам прывозіў у Альшэўе, калі яму здаралася прыязджаць у сельсавет з Бярозы. А аднойчы, помню, мне гады тры тады было, прывёз белы-белы батон. Я ўпершыню батон бачыла. Мама адрэзала мне тоненькую-тоненькую скібачку. Я хацела яе пасыпаць цукрам, як пасыпала чорны хлеб, а мама сказала, што батон і без цукру салодкі. Скібачка сапраўды была вельмі смачная. Бачыш, у вас тады ў Бярозе ўжо батоны былі.

— Ды не было ніякіх батонаў. Іх бацька часам з Брэста прывозіў, калі ездзіў у Брэст у камандзіроўку. А ў Бярозе прывозілі ў магазін толькі чорны і шэры хлеб. І толькі па адной булцы на рукі давалі. Звычайны фармавы хлеб, хочаш чорную булку бяры, хочаш — шэрую. Людзей набівалася ў той магазін жах колькі! — Ліна на імгненне задумалася, дакранулася да Зосінай рукі: — Ты ж помніш той драўляны дом, дзе мы жылі? Ён на некалькі сем'яў быў пабудаваны адразу пасля вайны. Я яшчэ дзве агромністыя ямінкі ад бомбаў памятаю на пустцы за домам. Іх чамусьці доўга не засыпалі. — І раптам Ліну як прарвала. Яна загаварыла хутка-хутка, не спыняючыся, быццам баялася, што нешта ўпусціць з тых сваіх успамінаў, што нечакана абрынуліся. — Насупроць нашага дома праз шашу быў стадыён. Па адзін яго бок была скабяная лаўка, дзе прадавалі цвікі, вяроўкі, абручы нейкія, керагазы… А па другі — трошкі па дыяганалі ад нас і стаяў той невялікі магазінчык, куды прывозілі хлеб. Потым той магазін знеслі, на яго месцы пабудавалі цагляны будынак з шыльдаю «Рэстаран», цяпер там кафэ размяшчаецца. А тады, гэта быў пяцьдзясят першы ці пяцьдзясят другі год, — Ліна зрабіла паўзу, трошкі памаўчала і лёгенька выдыхнула: — Стаяў проста маленькі драўляны магазін. Мама ўвесь час выглядвала ў акно, і як толькі каля магазіна пачынала збірацца чарга, тут жа хапала мяне на рукі і спяшалася хутчэй да магазіна… Прывозілі хлеб, у магазінчык набіваліся людзі, духата стаяла невыносная, а чарга рухалася марудна, але вось ужо бачыўся жаданы прылавак, і тады мне мама шаптала: «Ну, давай, Ліначка, крычы, каб дзядзька Паўлаў (такое ў прадаўца было прозвішча) даў нам дзве булкі». І я крычала з усёй сілы: «Дзядзьку Паўяў, нам дзве буйкі — цойнага і шэяга!» І вось нейкім днём атрымалі мы з мамаю тыя свае дзве булкі, неяк выштурхаліся з магазіна і, каб трошкі перадыхнуць, прыселі на прыступкі. Тут да нас і падышоў дзядзька Сіма, гэта для мяне ён тады быў дзядзькам. А насамрэч зусім яшчэ маладзенькі хлопец. Напэўна, за нашых бацькоў значна маладзейшы. Паглядзеў на нашыя дзве булкі і ўздыхнуў:

— От, Ніна, вы ўжо ўзялі… А як жа мне сёння і чорнага, і шэрага ўзяць? Заўтра да адных людзей у госці сабраўся, дык добра было б з хлебам прыйсці, — зноў уздыхнуў: — Нішчымніца ў іх вялікая.

— Дык у чым справа, Сімачка, — адгукнулася маці. — Бяры маю малую на рукі і хутчэй у дзверы… А то, пакуль мы тут гамонім, хлеб могуць разабраць.

— Дык жа Паўлаў тваю малую пазнае і ўспомніць, што на яе ўжо булачку даў.

— Паўлаў чалавек добры, Сімачка, — сказала маці. — Калі і пазнае, зробіць выгляд, што не пазнаў. Бяры малую…

Сімачка трошкі павагаўся, потым паглядзеў на мяне і заўсміхаўся:

— Ну што, малая, — кіўнуў на дзверы магазіна, — пойдзем гэты хлебны бастыён штурмаваць?

— Пойдзем, дзядзечку… — засаромеўшыся, прамовіла я.

— Ну, дык перад штурмам трэба падсілкавацца, — і ён дастаў з кішэні свайго пінжака некалькі пладова-ягадных карамелек: — Трымай, малая, і ямчэй абхоплівай маю шыю, моцна абшчапервай яе…

Хлеба нам з Сімачкам хапіла, і Паўлаў зрабіў выгляд, што не пазнаў мяне, і мы ўсе ўтраіх — мама, ён і я — былі такія шчаслівыя ад таго, што мелі па булачцы — чорнага і шэрага хлеба.

— Я во пра батон успомніла, — адазвалася Зося. — А сама і чорнай скібачцы радавалася, асабліва калі з цукрам… У вас хоць грошы былі, бацька ж твой зарабляў у райфа нешта. А мой што? На палутарцы ў калгасе за працадні ездзіў. Такая ўжо галеча была тады ў нас у Альшэўі.

— Ну так, была, Зося, але я зараз не пра галечу тую. Я пра дзядзьку Сіму табе хачу расказаць, хаця які ён быў тады дзядзька — гадоў васямнаццаць-дзевятнаццаць. А вось хто ён, што, дзе жыў у Бярозе, нічагусенькі тады не ведала. І ад бацькоў ніколі нічога пра яго не чула: Сімачка і Сімачка… І толькі праз шмат гадоў, ужо цяпер, гады чатыры таму, купіла я каляндар насценны «Родны край»… І на адной са старонак чытаю артыкульчык журналісткі Святланы Яскевіч «Адзін з трох тысяч»… Прабегла пачатак вачамі — а-а?.. Тут пра ўрочышча Смалярка, пра Бярозаўскі раён нешта… Пачала далей чытаць, і ў нейкі момант перахапіла дыханне, стала цяжка дыхаць… У артыкуле тым расказвалася пра Сімачку… Прозвішча яго было Бакштэйн — Сямён Бакштэйн, і ён быў адзін-адзінюсенькі яўрэй пасля вайны ў Бярозе, каму ўдалося ўратавацца… А тры тысячы, ты толькі ўяві, Зося, тры тысячы яўрэяў, што былі вязнямі Бярозаўскага гета, немцы пастралялі ў лістападзе 1942 года каля вёскі Смалярка.

— Там цяпер помнік каля Смалярkі паставілі. Я пра гэта ў раёнцы чытала.

— А ты далей паслухай пра Сімачку, Зося, — Ліна вытрымала паўзу, быццам набірала паветра ў грудзі, і працягнула: — Калі вялі калону змардаваных людзей праз лес да Смалярkі, яны ж, вядома, ведалі, што вядуць іх на пагібель. Наўкола немцы з аўтаматамі, з аўчаркамі… Вось Сімава маці і вырашыла рызыкнуць: а раптам уратуецца дзіця, якому тады было ўсяго дзевяць гадоў? Яна шапнула Сімачку: «Бяжы, сынок!» — і кінула яго ў лес, у гушчар… Хлопчык пабег. Немцы стралялі, спусцілі аўчарак… А Сімачка, невялікага росту, худзенькі, заўважыў лісіную нару і забіўся ў яе. Сабакі згубілі след. І калі калона ўжо аддалілася, Сімачка пачаў блукаць па лесе, дзе і натрапілі на яго партызаны…

Ліна замоўкла, маўчала і Зося. Але потым яна кранула Ліну за руку:

— Можа, гарбаты пап'ём… Нешта ў мяне ў горле перасохла.

— Пачакай трошкі, Зося. Ты толькі ўяві: тры тысячы людзей пастралялі, а можа, каго і жывым засыпаць у ямах… Чаму, за што, навошта? А Сімачка… Дзевяцігадовы хлопчык адзін у гушчары, у лесе… Ён, напэўна ж, чуў тыя бясконцыя стрэлы, той плач… — Ліна перадыхнула. — Я, калі чытала пра ўсё гэта, міжволі ўспамінала той драўляны магазінчык у Бярозе, цёплыя Сімачкавы рукі, яго дыханне, тоненькую, амаль хлапечую шыю, за якую я моцна трымалася, і як я зноў крычала, калі ўжо праштурхнуліся да прылаўка: «Дзядзьку Паўяў, нам дзве буйкі — цойнага і шэяга…» Зося, а ты ўяві яго маці, стань на яе месца, калі яна кідала сваё дзіця ў лес… А раптам? Раптам нейкім цудам уратуецца? Я паспрабавала ўявіць, і ў мяне млела сэрца, млелі рукі… А што рабілася з ёю? Ты ўяві, уяві, што кідаеш, ратуючы, сваю маленькую Кацю альбо цяпер вось свайго ўнука Сашку…

Зося нагнулася, узяла сумку, што стаяла каля канапы.

— Нешта хочаш знайсці?

— Ага, у мяне тут недзе сурвэткі ляжаць, — адказала Зося, і Ліна пабачыла ў яе вачах слёзы. Зося ўздыхнула: — Мне ў дзяцінстве мама расказвала, што да іх на хутар у Альшэўе людзі ў вайну з суседняй вёскі прыбягалі хавацца, калі да іх немцы прыехалі вёску паліць… — Зося памаўчала, потым зірнула на Ліну: — Ты ж толькі, Ліначка, Гюнтэру заўтра нічога такога не раскажы...

## ЖЫЦЬ НА СКРЫЖАВАННІ

У мінскім выдавецтве «Харвест» пабачыла свет дыхтоўная кніга Анатоля Тараса «Старонкі мінулага. Артыкулы па гісторыі Беларусі». Кніга выдадзеная на рускай мове, тут сабраныя навукова-папулярныя артыкулы па самых розных пытаннях беларускай гісторыі, надрукаваныя ў 2009 — 2016 гадах. «Уменне жыць “на скрыжаванні” вятроў, захоўваючы сваю традыцыйную ментальнасць» — менавіта так вызначаецца ў кнізе найважнейшая асаблівасць беларускай гісторыі.




Шасцісотстаронкавае выданне асвятляе беларускую гісторыю ад часоў Полацкага княства да сучаснасці, матэрыялы размешчаныя ў адпаведнасці з храналогіяй разгляданых падзей. Назвы раздзелаў, якія аб’ядноўваюць у адно цэлае створаныя ў розныя часы для розных выданняў артыкулы, гучаць яшчэ і як спроба перыядызацыі вывучэння беларускай гісторыі: «Старажытныя часы», «Перыяд Вялікага Княства Літоўскага», «Перыяд Рэчы Паспалітай», «Каланіяльны перыяд» (маецца на ўвазе каланіяльная палітыка Расійскай імперыі), «Перыяд БССР»…

Ёсць у кнізе і артыкулы пра выдатных дзеячаў навукі, пісьменнікаў, лінгвістаў. Напрыклад, у артыкуле «Расстрэл як вынік лінгвістычнай дыскусіі» аўтар прадстаўляе свой пункт гледжання на асобу і дзейнасць Восіпа Воўк-Левановіча. Гэта неадназначная постаць у гісторыі беларускага мовазнаўства, і ў асяроддзі сучасных навукоўцаў-філолагаў выказваюцца розныя меркаванні. А. Тарас падагульняе агучаныя на сёння ацэнкі мовазнаўчых прынцыпаў В. Воўк-Левановіча, палемізуе з некаторымі з іх. Менавіта таму гэты артыкул можа быць успрыняты неадназначна, як і многія іншыя. А. Тарас, аналізуючы вядомыя, шмат разоў агучаныя факты, прапаноўвае свайму чытачу адрозныя ад найбольш распаўсюджаных інтэпрэтацыі, але ўрэшце заклікае да паразумення. Адчуваецца гэта і ў такіх высновах: *«Калі знаёмішся з дакументамі і публікацыямі 80-гадовай даўніны, робіцца крыўдна: колькі жарсцяў, энергіі, сіл марнавалі беларускія інтэлігенты на “разборкі” адно з адным… Калі надышоў час, усіх іх, што так апантана высвятлялі, хто мацней любіць Беларусь, расстралялі ў адных і тых жа скляпеннях».*

А вось асноўная думка артыкула «Уладзімір Караткевіч і новы герой беларускай культуры» цалкам сугучная з тэкстамі даследчых манаграфій па творчасці славутага беларускага пісьменніка: *«“Ажыўляючы” беларускую культуру ў крызісны перыяд яе існавання праз прыдуманую “шляхецкую” гісторыю, Караткевіч дзейнічаў як міфічны Арфей, які з дапамогай мастацкай творчасці перамог Аіда, уладара Тагасвету, у самым цэнтры яго валадарства».*

А. Тарас не ставіць сваёй мэтай адкрываць Амерыку, выкладаючы вядомыя гістарычныя факты і агучваючы супрацьлеглыя інтэрпрэтацыі прадстаўнікоў розных навуковых школ. Найбольш актуальным на дадзеным этапе яму падаецца дзейнасць папулярызатара, які мусіць ісці шляхам *«шырокага распаўсюду ў грамадстве нацыянальна-патрыятычнай канцэпцыі гісторыі Айчыны»*, якую аўтар таксама прапаноўвае ў своеасаблівым разгорнутым заключэнні.

**Жана КАПУСТА**

# Паэзія як шлях да Бога

**Эдуард Мядзведскі — бібліяфіл, журналіст, паэт, філосаф-эзатэрык, настаўнік-асветнік. Чалавек закрыты, дзіўнаваты, не вельмі зручны ў зносінах для тых, хто яго не ведае, і вельмі шчыры, адкрыты, іранічны, з пачуццём гумару для тых, хто з ім сябруе. Калі бачыш яго на вуліцы, у натоўпе, то кідаецца ў вочы непрысутнасць. Такое ўражанне, што нясе ён на сваіх сутулых плячах адбітак мінуўшчыны. Яго ўнёсак у літаратурную спадчыну Магілёўшчыны вельмі прыкметны: Э. Мядзведскі — аўтар некалькіх паэтычных кніг.**

З 2005 па 2011 год Эдуард Іосіфавіч — старшыня журы фестывалю паэзіі «Пластылінавы бусел», арганізаванага Вольгай Касабуцкай для маладых аўтараў. За сем гадоў існавання фестываль выйшаў за межы горада Магілёва і набыў статус міжнароднага.

Нарадзіўся Эдуард Мядзведскі ў Магілёве 29 кастрычніка 1948 года ў пралетарскай сям’і. Да ўсяго даходзіў самастойна. Давялося засвоіць не адну прафесію. Працаваў рэзчыкам металу, кавалём, слесарам, апаратчыкам рэгенерацыі серавугляроду. Завочна скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Чалавек энцыклапедычных ведаў, больш за ўсё ў свеце ён цэніць кнігу. У яго прыватнай бібліятэцы захоўваецца звыш 6 тысяч кніг.

Мяне зацікавіў агульны сшытак з укленымі аркушамі, сапраўдны «гросбух», дзе зарэгістраваны прачытаныя кнігі ў алфавітным парадку пачынаючы з 1961 года. Іх больш за 14 тысяч. А да 1961 года было прачытана каля тысячы кніг, але першы сшытак з назвамі твораў, па словах гаспадара, ужо даўно стаў макулатурай.

**— Эдуард Іосіфавіч, ці чыталі вам бацькі кніжкі ў дзяцінстве? Якая кніга, прачытаная самастойна, запомнілася?**

— Не, бацькі не чыталі. Не было калі. Цяга да кніг праявілася толькі ў школе. У першым класе нас павялі ў гарадскую бібліятэку імя Якуба Коласа. Зацікавіў першы том поўнага збору твораў Маякоўскага ў 13 тамах і чарадзейныя казкі. На кнігу паэта звярнуў увагу таму, што яна была новенькая і чароўна пахла тыпаграфскай фарбаю. Маякоўскага я прачытаў на адным дыханні і нічога не зразумеў, але палюбіў за рытм. Казкі спадабаліся таямнічасцю. Узнікла шмат пытанняў, на якія сам шукаў адказы.

Прачытаўшы казку «Пакаціграшак», запытаў у сябе: чаму яе героі не пераходзяць мост, і чаго чакаюць? Адказ прыйшоў адразу: драконаў. Хто такія драконы, я зразумеў ужо ў юнацкім узросце. Гэта чалавечыя эмоцыі, а Калінаў мост не можа перайсці чалавек у плоці, бо па той бок моста знаходзіцца Кашчэева царства…

А пра што, напрыклад, распавядаецца ў казцы «Калабок»? Ды пра тое, як сыходзіць месяц з поўні да першай квадры, прахозячы па сузор’ях.

**— Як даўно пачалі збіраць бібліятэку і па якім прынцыпе?**

— З таго часу, як упершыню наведаў бібліятэку і прачытаў узятыя там кнігі. Дома кніг не было. А я ўжо зацікавіўся паэзіяй. Таму пачаў збіраць «Библиотечку “Огонька”», пяць капеек каштавалі гэтыя брашуры на 40 старонак.

Калі ў кішэні былі грошы, то траціў на кніжкі. Карэла-фінскі эпас «Калевала», потым кніга літоўскага паэта XVIII стагоддзя Хрысціёнаса Данелайціса. Гэта самы вядомы, па сутнасці, самы першы літоўскі паэт. Яго паэма «Поры года» і пяць баек напісаны гекзаметрам. У дзявятым класе набыў Эдуарда Багрыцкага з серыі «Библиотека поэта». З таго часу пачаў мэтанакіравана збіраць гэтую серыю. Другое выданне «БП» (вялікая серыя) налічвае 232 кнігі. У мяне — 200.

У 1963 годзе падпісаўся на васьмітомнік Дзям’яна Беднага. Гэта першы мнагатомны збор твораў у маёй бібліятэцы. Наступнікам Дзям’яна Беднага быў Аляксандр Блок. Цяпер у маёй бібліятэцы ёсць зборы твораў 138 аўтараў — беларуская, руская і замежная класіка. Звыш 1000 кніг складае сусветная паэзія.

Беларускай літаратуры таксама адведзена пачэснае месца. Класічная паэзія ёсць практычна ўся. Любімы паэт — Янка Купала. Усе творы яго высока цаню, за выключэннем афіцыйнай паэзіі 1930-х гадоў, якую ён сам называў «дрындушкамі».

Карані беларускай літаратуры і яе культуры — у гістарычным мінулым, у народнай творчасці. Таму маю больш за паўсотні тамоў беларускага фальклору.

**— Якія кнігі фарміравалі ваш светапогляд?**

— Кнігі дапамаглі пашырыць кругагляд. Светапогляд фарміравалі не толькі кнігі, але і тое, што адкрыў у сабе сам і што перадалі мне яшчэ ў раннім дзяцінстве носьбіты таемных ведаў — шаптухі, траўніцы, вясковыя ведзьмакі. У кнігах шукаў пацвярджэнне думкам, здагадкам. У паэтычных творах выдатных майстроў слова я заўважыў, што іх бачанне навакольнага свету супадае са светапоглядам носьбітаў таемных ведаў. Толькі ў паэзіі гэтыя веды — у падтэксце.


*Эдуард Мядзведскі.*

**— Пра паэзію Мандэльштам у вершы «*Silentium*» гаварыў: «она и музыка и слово», а для вас што ёсць паэзія?**

— Мандэльштам — мой любімы паэт, і я згодзен з ім. Музыка і слова ў паэзіі непадзельныя і залежныя адно ад другога. У кожным слове — свая непаўторная музыка. І задача паэта — пачуць гэтую музыку. Возьмем, напрыклад, ударныя інструменты — барабан, бубен — гэта рытмаўтваральныя інструменты, гіпнатычныя; духавыя — такія, як любімая народам жалейка, — перадаюць гукі прыроды, у іх — душа народа; струнныя — імкненне ў прастору, дзе адчуваеш сябе вольным. Струну я параўнаў бы з гукам стралы, з гукам нацягнутай цецівы.

Як музыкант валодае інструментам, так паэт павінен валодаць словам. Толькі тады, калі адчуваеш у душы музыку слова, яго касмічную энергетыку, і адчуваеш, як паэтычны радок нараджае падтэкст, можна стаць Паэтам з вялікай літары. Графаману гэтага не дадзена, як бы ён ні надзімаўся, бо глухі.

**— Да літаратурнага жыцця горада Магілёва вы далучыліся вельмі рана, былі знаёмыя з вядомымі пісьменнікамі…**

— У школе я наладзіў выданне рукапіснага часопіса «Усходы», які зацікавіў старшыню Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР Пятра Шасцерыкова. Па яго запрашэнні з 1964 года я прысутнічаў на пісьменніцкіх пасяджэннях. У 1970 годзе Шасцерыкова змяніў на гэтай пасадзе Васіль Матэўшаў, а з 1973 па 1981 год Магілёўскае аддзяленне ўзначальваў Аляксей Пысін… Вершы Аляксея Васільевіча люблю, бо ён сапраўдны майстар паэзіі.

У 1970 годзе, калі вучыўся ў БДУ, пазнаёміўся з Рыгорам Барадуліным. У мяне шмат яго паэтычных кніжак.

Рады знаёмству з шмат якімі пісьменнікамі. Ніколі не парываў сувязі з магілёўскімі пісьменнікамі і мастакамі. Сярод іх у мяне многа знаёмых, якіх паважаю за талент: гэта публіцыст і перакладчык Міхась Булавацкі, паэт і празаік Сяргей Украінка, мастак Базыль Камароў, скульптар і графік Уладзімір Конанаў… З павагай стаўлюся да творчасці літаратуразнаўцы і крытыка Яраслава Клімуця.

Напрыканцы 1960-х гадоў мною было напісана некалькі вострых эпіграм. Ад аўтарства ў той час адхрысціўся — іншага выхаду не было, каб не скончыць жыццё на нарах ці ў псіхушцы і каб не напаткаў лёс маіх двух дзядоў, якія загінулі ў засценках НКУС. Абышоўся толькі негалоснай забаронай на прафесію і стратай часткі архіва, які давялося спаліць. І ўсё ж 20 гадоў, з часоў перабудовы, я прысвяціў журналістыцы. Гэтым шчаслівы.

**— Эдуард Іосіфавіч, сёння толькі лянівы не піша вершы. Што вы можаце сказаць пра стан сённяшняй паэзіі?**

— Руская і беларуская паэзія, на мой погляд, у застоі. Асноўная маса сённяшніх маладых аўтараў танчаць вакол сябе, лічачы сябе паэтамі, і паўтараюць паэтычныя штампы. Маладыя насамрэч не ведаюць сваіх геніяльных папярэднікаў, а ўзорам ім служаць другарадныя аўтары інтэрнэтнага сеціва, якія боўтаюцца ў абывацельскім балоце, не ведаюць мовы, не адчуваюць фактуры слова, яго энергетычнай сутнасці.

Хачу верыць, што час выкрышталізуе з сённяшніх маладых паэтаў самых таленавітых.

**— На вашу думку, што патрэбна, каб з’явіліся паэты кшталту Мандэльштама, Пастарнака, Ахматавай?..**

— Сацыяльныя ўзрушэнні. За 10 — 15 гадоў да такіх катастроф заўсёды з’яўляюцца прарокі-геніі. Так было заўсёды. Геніяльны паэт, пішучы пра дзень сённяшні, з’яўляецца прадвеснікам будучыні, які сваёй творчасцю пракладвае шлях да Бога. Калі вывучаў сусветную літаратуру, мяне заўсёды цікавіла пытанне: чаму перавыдаюцца старажытныя паэты (Гамер, Эсхіл, Вяргілій, Авідзій) тысячнымі тыражамі? І я зразумеў, што яны якраз і нясуць думку: «Ідзіце да Бога». А гэта значыць — да першаснага паняцця Слова, сэнс якога з цягам часу страчаны. Сённяшнім словам не стае энергіі, яны мёртвыя. А Слова павінна быць заўсёды жыццятворным.

Таму я вяртаюся да аўтараў, у якіх знаходжу незаштампаваную думку, думку ў развіцці, якая спрые нараджэнню новай думкі. Геніяльныя Творцы — прарокі, яны прадбачаць не толькі будучыню, але і распазнаюць мінулае. Таму што гісторыя палітызавана і пішуць яе пераможцы.

**— Эдуард Іосіфавіч, што для вас кніга?**

— Тое, што для антраполага археалагічныя раскопкі. Кніга дапамагае спасцігнуць душу чалавека, Сусвет і яго Боскую сутнасць. Праз розум чалавецтва ідзе да Бога.

**Гутарыла Тамара АЎСЯННІКАВА**

# ПАТРАПІЦЬ ПАД КНІЖНЫ ДОЖДЖ

**Кнігі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў, сабраныя рэдакцыяй «ЛіМа», ужо патрапілі на бібліятэчныя паліцы! Па ўмовах рэкламнай акцыі, якая ладзілася ў межах падпісной кампаніі-2017, бібліятэкі даслалі ў рэдакцыю копіі падпісных квітанцый, а наўзамен атрымалі кнігі з аўтографамі аўтараў. Дзевяць выданняў было накіравана ў Лунінецкую раённую цэнтралізаваную бібліятэчную сістэму.**

Да прыезду карэспандэнта супрацоўнікі Цэнтральнай раённай бібліятэкі горада Лунінца запланавалі літаратурнае падарожжа: сябры творчага аб'яднання «Літаратурная правінцыя» наведалі аматараў паэзіі ў горадзе Мікашэвічы. Удзельнікамі падарожжа былі не толькі літаратары і бібліятэкары, але і вучні некалькіх школ Лунінецкага раёна. Сустрэча распачалася ў Лунінецкай цэнтральнай бібліятэцы знаёмствам з вядомымі краязнаўцамі Васілём Туміловічам і Іванам Панасюком. Па шляху ў Мікашэвічы аўтобус спыніўся ў вёсках Дварэц і Любань, каб узяць на борт гумарыста Максіма Казуна і пісьменніка Сцяпана Нефідовіча.

У Мікашэвіцкай бібліятэцы гасцей чакала не толькі гарбата, але і некалькі цікавінак. У зале дарослага абанемента зіхацеў «кніжны дождж»: на залатых стужках гайдаліся кнігі мясцовых аўтараў і сучасных беларускіх пісьменнікаў. Айчынная літаратура, прадстаўленая ў такім арыгінальным выглядзе, не застанецца незаўважанай, і прозвішчы сучасных аўтараў запомняцца вельмі лёгка. У Пакойчыку добрага настрою, абсталяваным для маленькіх чытачоў, здзівіла выстаўка папяровых кампазіцый, выкананых у тэхніцы квілінг. Дзівосныя кветкі, вытанчаныя ўзоры... Па словах дырэктара цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Алены Кішкевіч, многія бібліятэкі Лунінеччыны маюць творчыя майстэрні, дзе супрацоўніцы дзеляцца сваімі хобі з наведвальнікамі: у Лунінцы робяць лялек Цільды, у Любані — вышываныя карціны, у Сінкевічах — вырабы з прыроднага матэрыялу, у Дрэбе займаюцца бісерапляценнем.

Вядома, бібліятэкі чакаюць не толькі майстроў, але і чытачоў. Каб прывабіць дзяцей да кнігі і пазнаёміць з навінкамі кнігавыдання, супрацоўнікі Цэнтральнай раённай дзіцячай бібліятэкі праводзяць акцыю «Бібліярукзачок». У дзіцячыя садкі штомесяц зазірае Чараўніца кніжнага царства: ладзіць гульні, знаёміць дзяцей з новымі сябрамі-кніжкамі. Ва ўзнагароду за дапытлівасць і кемлівасць Чараўніца пакідае маленькім чытачам і іх бацькам «бібліярукзачок» з найлепшымі кнігамі, а праз месяц прыходзіць з новымі выданнямі.

Людзей старэйшага ўзросту ў бібліятэку часта прыводзіць цікавасць да рэлігійнай літаратуры. На працягу стагоддзяў нашы продкі шанавалі кнігу як магчымасць звярнуцца да Бога, знайсці духоўную гармонію, зразумець прычыны сваіх праблем. І сёння духоўна-асветніцкі кірунак вызначальны ў дзейнасці раённых бібліятэк. Так, у 12 бібліятэках Лунінеччыны створаны экспазіцыі праваслаўных кніг, а ў Лунінецкай цэнтральнай бібліятэцы дзейнічае духоўна-асветніцкі цэнтр «Вытокі». Тэматычныя сустрэчы з удзелам святароў, якія ладзяцца ў цэнтры, нязменна збіраюць вялікую аўдыторыю. Дыскусіі па актуальных жыццёвых праблемах часта ладзяцца з разлікам на моладзь: тут абмяркоўваюцца пытанні выбару прафесіі, стасункаў у сям'і...


*Фота Таццяны Карнуховіч.*
*«Кніжны дождж».*


*Каралева кнігі (бібліятэкар Іна Міхнавец) з маленькімі чытачамі.*

Да арганізацыі святочных сустрэч у горадзе Лунінцы часта далучаюцца сябры «Літаратурнай правінцыі». Для большасці з іх паэзія — гэта не гульня словамі і сэнсамі, не рух да найвышэйшых узораў літаратурнага майстэрства. Творчасць — гэта хвіліны ўздыму, водгулле ўлюбёных класічных твораў, магчымасць сказаць і пачуць ад іншых словы, якія ўмацоўваюць і падтрымліваюць. Падчас літаратурнай сустрэчы гучалі ўзнёслыя велікодныя вершы, філасофская лірыка, гумарэскі, вершаваныя замалёўкі з вясковага жыцця. Па словах сталых сяброў творчага аб'яднання, падчас літаратурных чытанняў у Лунінцы нярэдка даводзіцца ўдзельнічаць у абмеркаванні вершаў і выслухоўваць крытычныя заўвагі кіраўніка Віктара Пінігіна.

У бібліятэкі Лунінеччыны часта завітваюць і творцы з вялікім літаратурным досведам: Леанід Дранько-Майсюк, Аксана Спрынчан, Сяргей Трахімёнак. Супрацоўнікі бібліятэк заўсёды чакаюць гасцей, а падарункам можа быць не толькі кніга з аўтографам, але і добры настрой ды цікавыя ідэі!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Нібы аранжарэя

**Як павялічыць колькасць чытачоў у бібліятэцы? Можна завесці мілую жывёлінку, стварыць зімовы сад, перыядычна праводзіць пазнавальныя сустрэчы і віктарыны экалагічнай тэматыкі. Бібліятэка як аранжарэя прывабіць многіх жыхароў сучаснага мегаполіса, а прыемным бонусам для супрацоўнікаў будзе ўрачыстае ўзнагароджванне міжнароднай прэміяй!**

Віталь Б'янкі — адзін з самых вядомых пісьменнікаў-натуралістаў. Яго творчасць цікавіць многіх людзей, асабліва маленькіх чытачоў. У межах міжнароднага расійска-беларускага праекта «Пад белымі крыламі» Маскоўская абласная дзяржаўная дзіцячая бібліятэка, Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк г. Мінска і Цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма заходняй адміністрацыйнай акругі Расійскай Федэрацыі заснавалі штогадовую Міжнародную літаратурную прэмію імя В. Б'янкі. Сёлетняя прэмія была ўручана мінскай дзіцячай бібліятэцы № 11 за праект «Экалагічнае выхаванне». Акрамя грашовай прэміі бібліятэка атрымала некалькі кніг: «Вялікая кніга апавяданняў» В. Б'янкі і два тамы «Легендаў роднага краю» Уладзіслава Бахрэўскага.

У памяшканні бібліятэкі створана экалагічная зона адпачынку — зімовы сад, дзе квітнеюць больш як 200 відаў экзатычных раслін, якія спрыяюць рэлаксацыі, душэўнаму і фізічнаму ўзнаўленню наведвальнікаў. У левай частцы — паліцы з кнігамі, у правай уздоўж вокнаў — райскі сад. Каб не паліцы з кнігамі, можна падумаць, што трапіў у аранжарэю.

Асаблівасць гэтай бібліятэкі — экалагічны кірунак дзейнасці. Супрацоўнікі распрацавалі праграму «У гармоніі з прыродай», у межах якой працуюць клуб для старшакласнікаў і дарослых «Кветкі для шчаслівага жыцця», клуб юных батанікаў «Чырвоная кветка» і «Каўчэг».

Каб любіць прыроду, трэба ведаць яе, разумець яе мову. Не дзіва што і задача бібліятэкі — навучыць дзяцей любіць і паважаць меншых братоў, раскрыць кожнаму дзіцяці непаўторнасць і значнасць кожнай жывой істоты, а таксама пазнаёміць з прадстаўнікамі жывёльнага свету ўсіх кантынентаў. Цягам шасці год ладзіўся цыкл мерапрыемстваў, прысвечаных жывёльнаму свету планеты. Пасля кожнай сустрэчы дзецям давалі заданне: падрыхтаваць творчую працу, малюнак, аповед ці верш пра жывёліну. Таму да кожнага мерапрыемства афармлялася экалагічная выстаўка дзіцячых работ.

Калектыў узначальвае Вольга Грышчанкова, прафесіянал з 38-гадовым стажам работы ў сістэме дзіцячых бібліятэк.

— Адна з адметных рысаў інтэр'ера нашай бібліятэкі — вялікая калекцыя хатніх і экзатычных раслін. Кветкавая казка ў сценах бібліятэкі разгарнулася ўжо вельмі даўно, — распавядае Вольга Іванаўна. — Супрацоўнікі бібліятэкі калісьці «пасялілі» прыроду ў выглядзе першых парасткаў. За імі пацягнуліся чытачы. Праўда, тады гэтая калекцыя не была багатая экзатычнымі раслінамі. За час суіснавання з раслінамі мы набылі багаты досвед і практычныя навыкі па іх утрыманні. Кожны дзень нашу бібліятэку наведваюць да 150 чалавек. І, зразумела, сярод іх — аматары хатніх раслін. Неаднаразова нашымі чытачамі станавіліся мінакі, якія, загледзеўшыся на нашы вокны, упрыгожаныя кветкамі, адважваліся зайсці ў памяшканне палюбавацца калекцыяй зблізку. Сваімі ведамі, досведам, літаратурай, чаранкамі, насеннем мы шмат гадоў з задавальненнем дзелімся з чытачамі. Напрыклад, сёлета квітнела драцэна духмяная, што вельмі рэдка здараецца ў хатніх умовах. Расліна не самая прыгожая, нагадвае пальму, але вельмі пахучая.

За шмат гадоў існавання зімовага саду здарылася шмат цікавых гісторый. Вольга Іванаўна распавяла адну з іх:

— Ёсць у садзе і свая зорка — дрэва японскіх імператараў, ці Мурая, якая карыстаецца папулярнасцю дзякуючы сваім гаючым уласцівасцям. Два гады таму здарыўся кур'ёзны выпадак. У публікацыі ў "Вячэрнім Мінску" Наталля Пушкіна распавяла, што дрэва японскіх імператараў падаўжае жыццё. Колькі было званкоў! Людзі прыходзілі і прасілі адростак, бо Мурая сапраўды валодае гаючымі ўласцівасцямі.

Таксама Вольга Грышчанкова ўзгадвае трусіка Вугельчыка, які калісьці жыў у бібліятэцы. Навіна пра трусіка разышлася па раёне як лясны пажар і цягнула ў бібліятэку маленькіх чытачоў і аматараў жывёл. На жаль, новых вушастых жыхароў тут пакуль не з'явілася.

У бібліятэцы ладзяцца сустрэчы з аўтарамі кніг, выстаўкі-гербарыі, фотавыстаўкі, фsavenalагічныя выстаўкі, выстаўкі-інфарміны па экалагічнай тэматыцы, а таксама ўрокі здароўя, экалагічныя ўрокі, гутаркі, віктарыны, конкурсы дзіцячай творчасці. І ўсё гэта побач з кветкавай казкай!

**Марыя ШЧЫПАНАВА**

# БЕЗ ПАДСТРАХОВАК

## Асоба, што падтрымлівае агонь

**Беларуская і сусветная класіка, паэтычныя і празаічныя радкі ажываюць у спектаклях Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра «Зніч». За 27 год працы «Зніча» (нязгаснага агню нацыянальнага мастацтва) перад вачыма гледачоў паўставалі творы Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі, Ніла Гілевіча, Яўгеніі Янішчыц ды іншых. Усё гэта стала магчымым дзякуючы ініцыятыве аднаго чалавека — Галіны Дзягілевай. Заснавальніца і мастацкі кіраўнік адзінага ў Беларусі монатэатра «Зніч», таленавітая актрыса, рэжысёр сёлета адзначыла юбілей.**

…У Малую залу Беларускай дзяржаўнай філармоніі неслі паштоўкі, кветкі і падарункі: звычайныя і творчыя, са спеваў ды тэатральных мініяцюр. «Ці паспеем павіншаваць?» — хваляваліся госці ў глядзельнай зале. Пасля ўрачыстай часткі імпрэзы да юбіляркі завіталі ў невялічкі кабінецік на трэцім паверсе. Чыталі вершы, спявалі, узнімалі тосты за творчасць і за каханне. Віншаваць Галіну Дзягілеву хацелася па-беларуску: нават рускамоўныя госці спрабавалі скласці колькі слоў на беларускай мове. Дзіўна бачыць, але актрыса хвалявалася, распытвала ў сваіх наведвальнікаў, ці было цікава падчас імпрэзы. «Як цудоўна ён праспяваў! А як узнёсла выканаў нумар!» — здавалася, у Галіны Аляксееўны знойдзецца добрае слова для кожнага выступоўцы.

Юбілярка выпраменьвае святло і энергію, зараджае любоўю да жыцця і творчасці. Калі запытаць, як у яе ўсё атрымліваецца, — здзіўляецца. Ці можа быць інакш? Сапраўды, пасля размовы з Галінай Дзягілевай разумееш: у такой асобы іншае немагчыма!

### ЗАПАЛ «ЗНІЧА»

— Напрыканцы васьмідзясятых я скончыла працу ў віцебскім Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа і паехала ўладкоўвацца ў Маладзёжны тэатр БССР, які толькі-толькі ўтвараўся, — узгадвае Галіна Дзягілева. — Але ў эксперыментальную групу Маладзёжнага тэатра так і не трапіла: пачала працаваць у канцэртна-лекцыйным аддзеле Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Напэўна, так сталася па волі Божай! Яшчэ з Віцебска ў мяне былі пэўныя напрацоўкі па п'есе Яўгена Шабана, з якіх склалася пастаноўка «Вяртанне», вельмі блізкая да монаспектакля. Я сябравала з Саюзам тэатральных дзеячаў, тады Антаніна Міхальцова і Вяргінія Тэрнаўскайтэ прапанавалі мне першы монаспектакль па п'есе «Выгнанне ў рай» Н. Рапа. Давялося рэпеціраваць больш год, бо кожнае слова ў пастаноўцы трэба было нарадзіць. З цягам часу ініцыятыва атрымала падтрымку і стварыла цуд: аднойчы мяне наўпрост прывялі ў асобны кабінет і сказалі, што я ўжо не ўпісваюся ў канцэртна-лекцыйны аддзел, бо тое, чым займаюся, — сапраўдны тэатр. Так у філармоніі нарадзіўся «Зніч».

Пасля першых роляў у монаспектаклях жадання вярнуцца да звычайных спектакляў не было. Наадварот, я дзякавала Богу за сваё шчасце: магу працаваць у такім цікавым жанры з неабмежаванымі магчымасцямі. Здавалася б, на сцэне толькі адзін чалавек, але адчула, што адна асоба ў мастацтве ці ўвогуле ў жыцці можа часам адкрыць свету больш за грамаду. У чалавеку схаваны цэлы сусвет, тое ж самае — з монатэатрам. Такая тэатральная форма развівае артыста з усіх бакоў. Ён павінен адчуваць тэатр настолькі, каб не захапляцца сабой падчас выканання спектакля, а быць задзейнічаным у агульнай працы. Гэта той выпадак, калі прафесія ў пэўнай ступені не мае межаў. Калі я скончыла тэатральны інстытут, то атрымала прафесію «артыстка тэатра і кіно». Адукацыя дала магчымасць рухацца ў розных напрамках, не засяроджвацца толькі на акцёрскай справе.



Фота Кастуся Дробава.

Давялося выконваць ролі як актрысе, стаць рэжысёрам, аўтарам інсцэніровак, пісаць лібрэта, нарэшце, кіраваць цэлым тэатрам.

### КАЛЕКТЫЎНЫ КЛОПАТ

— Калектыў «Зніча» — гэта асобная сям'я. У нас такая складаная тэатральная форма, што інакш проста немагчыма. Часта даводзіцца сутыкацца з праблемамі, якіх, мабыць, у іншых тэатраў увогуле няма, бо монаспектакль для артыста — найвышэйшы пілатаж.

Пры гэтым на монаспектакль цяжка прадаваць квіткі: каб арганізаваць гледача на нашы пастаноўкі, трэба быць вялікім аматарам сваёй справы, сапраўдным знаўцам. Эстрада зразумелая і для дзяцей, і для дарослых, туды глядач заўсёды пойдзе. Монатэатр — з'ява няпростая. Але ж трэба, каб людзі былі здаровыя, а наш тэатр, дзе ставяць спектаклі, створаныя паводле класікаў, лечыць душу. І я бачу, што кожны чалавек у калектыве гэта цэніць.

> *У чалавеку схаваны цэлы сусвет, тое ж самае — з монатэатрам. Такая тэатральная форма развівае артыста з усіх бакоў. Ён павінен адчуваць тэатр настолькі, каб не захапляцца сабой падчас выканання спектакля, а быць задзейнічаным у агульнай працы. Гэта той выпадак, калі прафесія ў пэўнай ступені не мае межаў.*

Шчыра скажу: унутры «Зніча» ўсё добра. Пры ўсіх складанасцях згуртаваўся цудоўны калектыў, іншага нават быць не можа! Прафесія, звязаная з мастацтвам, — заўсёды вялікая адказнасць: задач перад намі паўстае значна больш, чым існуе службовых абавязкаў. Калі ў працы аднаго чалавека ёсць недахопы, значыць, мы ўсе нешта прапусцілі, бо ведаем слабыя месцы калег і павінны іх страхаваць. А памылкі ёсць ва ўсіх, у першую чаргу ў мяне самой. На сцэне «Зніча» ідзе класіка, ладзяцца цудоўныя спектаклі (у рэпертуары іх — каля 20), у тэатра багатая гісторыя. Артысты, якія іграюць у пастаноўках, — вядучыя майстры сцэны… Зараз закладзена ўсё, што патрэбна для паспяховай творчасці, і кожны з нас імкнецца адпавядаць узятаму ўзроўню. Таму людзям цікава супрацоўнічаць са «Зніча», назіраць за дзейнасцю тэатра.

### ПАДКАЗКІ ІНТУІЦЫІ

— Якія ролі мяне прываблiваюць? Вельмі цікава, калі чалавек, які апынуўся ў цяжкіх абставінах, знаходзіць выйсце і пры гэтым застаецца Чалавекам. Ён як бы «перахварэе» на выпрабаванні, а пасля паўстане перад гледачом яшчэ больш годнай асобай. Канечне, ёсць персанажы, якія выклікаюць непрыемныя пачуцці: у кожным з нас можа быць нешта непрыемнае. Калі чалавек часам памыляецца, але змагаецца са сваімі заганамі, яго можна зразумець.

Хочацца згадаць ролі з цыкла «Маленькіх трагедый» Аляксандра Пушкіна, якія мне калісьці прапанаваў Рыгор Барадулін. Там я асэнсоўвала, адкрывала для сябе, як застацца чалавекам пасля цяжкіх выпрабаванняў. У монаспектаклі даводзіцца быць і Моцартам, і Сальеры. Нягледзячы на думку пра тое, што Сальеры быў сумленным чалавекам і не зрабіў Моцарту нічога благога, Аляксандр Сяргеевіч узнімае страшную праблему зайздрасці і забойства. Каб глядач усё зразумеў, у першую чаргу я сама павінна ўнікнуць у сутнасць учынкаў персанажаў, інакш будзе «каша». У монаспектаклі ёсць узаемадзеянне. Перадаць ідэю твора артысту дапамагае рэжысёрская задума, цікавыя сцэнаграфічныя падыходы, цудоўная музыка. І ў выніку на сцэне — гімн чысціні. Гімн Моцарту.

Спектакль «Выгнанне ў рай» ідзе ў рэпертуары «Зніча» ўжо больш за дваццаць год. Рагнеда на пачатку сцэнічнага жыцця пастаноўкі і сёння — адна і тая ж Рагнеда, але… Сюжэт застаецца, маё асэнсаванне — змяняецца. Гэта адлюстроўваецца ў эпізодах: штосьці вылучаецца, штосьці, наадварот, выглядае не так значна. Раней спектакль ішоў паўтары гадзіны, зараз — гадзіну. Але ж усё засталося, з п'есы нічога не выкідалі. Павялічылася толькі інтэнсіўнасць жыцця. Пастаноўка стала больш сціслай, і цяпер не «разжоўваю» яе гледачу, як раней, але паказваю гераіню, выконваю яе ролю дакладна і зразумела.

Калі абіраеш твор для пастаноўкі «Зніча», хочацца ставіць тое, што любіш. За столькі год выпрацавалася інтуіцыя, якая дае падказкі. Канечне, бываюць і памылкі. Ці, напрыклад, даволі доўга працавала над спектаклем, ад якога, па вялікім рахунку, трэба было ўжо пазбавіцца, але ж — класіка… Аснову рэпертуару складаюць беларускія творы. Але зараз з поспехам ідзе спектакль «Мой Маленькі прынц» па рамане Антуана дэ Сент-Экзюперы ў выдатным перакладзе Ніны Мацяш. Асэнсаванне беларусамі сусветнай класікі — важны момант. Глядзіце: у любым мастацкім творы, зробленым паводле іншага, адчуваецца ўнёсак таго, хто зазірнуў у глыбіню арыгінала. Нават перакладчык вылучае тое, што значнае менавіта для яго. А ў класіцы столькі ўсяго! Для кожнага чалавека ёсць, на што абаперціся. Так і атрымалася: французская кніга, а ў спектаклі ўсё ж адчуваецца беларускасць.

### ЗАГАДКІ І АДГАДКІ

— Бяру энергію з рэгулярных фізічных нагрузак: штодзённая фізкультура па тыбецкай методыцы, кожны тыдзень — шэйпінг у спартзале. Па меры магчымасцяў стараюся сачыць за сабой. Ведаеце, калі мы не рухаемся, жыць і працаваць становіцца цяжэй.

Самы галоўны жыццёвы навык — прымусіць сябе пацярпець. Паглядзіце, што зараз адбываецца ў свеце. Здавалася б, адкуль бярэцца столькі негатыву? Мы павінны цягнуцца да святла, але негатыў робіць сваю справу. Хвалюемся, баімся — за сябе, за дзяцей, за будучыню. Але ж усе людзі павінны быць шчаслівыя. Трэба імкнуцца да здзяйснення сваёй мары, не здавацца і верыць у лепшае. Калі цяжка і нешта не атрымліваецца — пацярпіце. Хіба штосьці добрае можа атрымацца адразу? Ніколі! Чалавечае ўвогуле поўніцца праблемамі, таму нельга іх баяцца.

Калі пытаюць пра тое, як атрымліваецца сумяшчаць кар'еру, творчасць і сям'ю — мужа, дачку, унукаў, — адразу хочацца пазбавіцца ад слова «кар'ера». Мая праца — гэта маё жыццё. Нават у вольны час я думаю пра тое, што яшчэ трэба зрабіць. Не лічу творчых дасягненні. Шчыра радуюся ды кажу «Дзякуй Богу, зрабіла!», таму што абмінула пэўную перашкоду. Вось і сённяшняе свята: не сорамна за яго, то ўжо добра. Атрымалася прыгожа — дык таму, што свет сапраўднага мастацтва заўсёды будзе прыгожы.

Калі б працавала ў іншай прафесіі, усё роўна засталася б рамантыкам: мастацтва вельмі шмат адкрывае чалавеку. З тых часоў, калі я толькі вучылася, тэатр для мяне — цэлы свет. Асэнсаванне класікі, якую мы ставім, дапамагае лепш разумець жыццё. Штодзень — безліч загадак і адгадак. Але без веры, без хрысціянскай любові прафесія акцёра прывядзе да ганарлівасці ды эгацэнтрызму. Я баюся гэтага і ў цяжкіх абставінах заўсёды кажу сабе: «Нічога, Галя, пацярпі». Лепш лішні раз папрасіць прабачэння, чым ісці наперад па галавах. Вось такая жыццёвая філасофія. Гэта не значыць, што я заўсёды ўсё правільна раблю, таксама часта памыляюся. Усе людзі памыляюцца, але ва ўсіх нас ёсць магчымасць прасіць прабачэння. Таму што ў жыцці не існуе ніякіх падстраховак.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Ад «Перапёлачкі» да «Abba»

## Неабмежаваныя магчымасці беларускіх цымбалаў

**Гэты інструмент — адна з візітак беларускай нацыянальнай культуры. На працягу стагоддзяў народныя майстры ўдасканальвалі цымбалы, і яны сталі акадэмічным інструментам, ігра на якім выкладаецца ў сценах Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.**

Пра сучаснасць беларускага народнага інструмента распавёў член Асацыяцыі беларускіх цымбалістаў, кіраўнік заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь цымбальнага аркестра «Першацвет», а таксама намеснік дырэктара мінскай сярэдняй школы № 13 па вучэбнай рабоце Віктар Тульвінскі.

**— Сёлета аркестру «Першацвет» споўнілася трыццаць год. Як мянялася стаўленне беларусаў да цымбалаў цягам апошніх дзесяцігоддзяў?**

— Калі мы толькі пачыналі ствараць калектыў (гэта 1980-я гады), адчуваўся ўздым нацыянальнай культуры. Як вынік — з'явілася цікавасць да народных інструментаў. Практычна ва ўсіх музычных школах стваралі самадзейныя цымбальныя калектывы, у вышэйшых навучальных установах былі цымбальныя аркестры: гэта лічылася паказчыкам прэстыжу. Але потым сітуацыя змянілася, і зараз такога ажыятажу і попыту на цымбалы няма. Няма нават былой матэрыяльнай базы — закрылася барысаўская фабрыка, якая забяспечвала нас інструментамі. Мае вучні цяпер купляюць цымбалы «з рук» праз аб'явы, бо новыя робяць толькі на заказ, а гэта вельмі дорага: не кожны беларус дазволіць сябе такія выдаткі. Многіх калектываў ужо не існуе: напэўна, трымаць свой народны аркестр цяпер не модна. Цымбалы паступова становяцца вузкаспецыфічным кірункам у беларускай культуры. Як з класікай: гэтая музыка займае сваю нішу, знаходзіць прыхільнікаў, але масавай цікавасці няма.

**— На што можа паўплываць Асацыяцыя беларускіх цымбалістаў?**

— Старшыня асацыяцыі, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, народны артыст Беларусі Яўген Гладкоў імкнецца не страціць цымбальную школу, спрабуе аднавіць масавую вытворчасць інструментаў, ладзіць міжнародны фестываль «Сярэбраны звон цымбалаў», конкурсы ды семінары — жыццё ўнутры цымбальнага свету віруе. У нас добры падмурак — распрацаваная метадычная, практычная, нотная база. Ва ўсіх музычных школах створаныя аддзяленні цымбалаў, але, на жаль, колькасць дзяцей штогод памяншаецца. Гэта можна прасачыць на прыкладзе нашай школы: калі раней з аднаго класа на цымбалы набіралася 12 — 15 чалавек, то зараз — толькі 2 — 3. Цымбалы не карыстаюцца такім попытам, як фартэпіяна або скрыпка. Да таго ж у школах на музыку сталі адводзіць меней гадзін. Ды для развіцця тых калектываў, што ёсць, патрэбныя сродкі: на добрыя інструменты, касцюмы, рэкламу…

**— За кошт чаго «Першацвету» ўдалося ўтрымацца ў той час, калі знікалі іншыя калектывы, якія пачыналі працаваць адначасова з вамі?**

— «Першацвет» хутка дамогся поспеху, і ўдзельнікі калектыву адчулі сябе лідарамі. Нікому не хацелася апускаць планку, на дасягненне якой пайшло столькі намаганняў. Наш аркестр атрымаў званне заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь, а з такім статусам прыходзіць і адпаведнае стаўленне з боку арганізатараў, пачынаюць запрашаць на больш прэстыжныя конкурсы і канцэрты. Сярод шматлікіх перамог на фестывалях і конкурсах самым важкім дасягненнем «Першацвету» з прафесійнага пункту гледжання магу назваць Гран-пры конкурсу знакамітай і аўтарытэтнай установы — Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных. Дапамагае і мая жонка Ала Тульвінская: яна выкладчык па класе цымбалаў, рыхтуе і пастаўляе ў аркестр добрыя кадры.

**— Як вы сталі працаваць менавіта з цымбальным аркестрам?**

— Мая жонка грала ў даволі знакамітым цымбальным аркестры пад кіраўніцтвам Аркадзя Берына. Я часта прыходзіў на рэпетыцыі, канцэрты, ездзіў з імі на гастролі, сам загарэўся ідэяй цымбальнага калектыву. Калі жонка перайшла на працу ў школу № 13, высветлілася, што там набылі інструменты (адных цымбалаў — 24), а стварыць аркестр не было каму. На той момант я ўжо ведаў, як падысці да справы, хацеў на практыцы рэалізаваць тое, што бачыў раней. Пайшоў у школу, каб стварыць цымбальны аркестр, а знайшоў справу свайго жыцця. Так спадабалася, што да сёння не магу адарвацца: у аркестры можна ажыццявіць любую задуму.

**— Аркестр «Першацвет» створаны на базе школы, і значная яго частка — вучні. Як арганізаваць працу з дзецьмі так, каб яны арганічна ўвайшлі ў спрактыкаваны і дасведчаны калектыў?**

— Напрацоўваць тэхніку пачынаем яшчэ з чацвёртага класа: ствараем невялікія ансамблі, каб дзеці навучыліся адчуваць адзін аднаго. У пятым класе праца становіцца больш сур'ёзнай — пераводзім дзяцей у падрыхтоўчы аркестр. Прыкладна ў шостым класе самыя прасунутыя вучні трапляюць у асноўны склад «Першацвету». У пастаянны склад аркестра ўваходзяць 35 чалавек. Адначасова працую з трыма рознымі групамі: дзіцячай, старэйшай і «вячэрняй» — гэта тыя, хто скончыў нашу школу, атрымаў прафесію, часам нават далёкую ад музыкі, а развітвацца з аркестрам не жадае. Сярод самых сталых удзельнікаў «Першацвету» дасюль засталіся некалькі чалавек з першага выпуску, набранага яшчэ ў 1986 годзе.

Праца ў аркестры — вялікая адказнасць, але асобна вучыць дзяцей сур'ёзнаму стаўленню да справы не трэба. Калі новы вучань трапляе ў «Першацвет», ён адразу адчувае станоўчую аўру калектыву, бачыць уважлівае стаўленне да рэпетыцый і канцэртаў. Малодшыя аўтаматычна цягнуцца за старэйшымі, стараюцца не адставаць. Нават не прыгадаю выпадку, калі б дзіця не ўлілося ў калектыў.

**— Як заахвочваеце школьнікаў вучыцца іграць на цымбалах?**

— Мы імкнёмся паказаць цымбалы «ў дзеянні», выконваем для дзетак пазнавальныя мелодыі, каб яны пачулі, які гэта прыгожы і незвычайны інструмент. Зразумела, калі проста расказваць пра інструмент, ніхто не зацікавіцца, а калі пачынаеш іграць сам, а потым даеш паспрабаваць школьніку, бачыш — вочы загарэліся, ён кажа: «Мама, я хачу на цымбалы!»




*Віктар Тульвінскі і заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь цымбальны аркестр «Першацвет».*

**— Зараз трэба зацікавіць інструментам не толькі маленькіх слухачоў, але і дарослых. Якім чынам вы складаеце рэпертуар?**

— Мы ставім некалькі класічных і народных кампазіцый, якія хочам данесці да аўдыторыі, і разам з імі выконваем тое, што цікава простым слухачам. Ёсць надзвычай добрыя кампазіцыі ў аркестравай апрацоўцы: *«The Beatles»*, *«Abba»*, шмат музыкі з аперэт, эстрады, нават джаз — прысутнічаюць практычна ўсе музычныя кірункі. Напрыклад, цяпер рыхтуем святочны канцэрт у Малой зале Палаца Рэспублікі да юбілею «Першацвету». Раз на 5 год нам трэба пацвярджаць званне «Заслужаны аматарскі калектыў РБ», таму зрабілі акцэнт на разнастайнасць: скампанавалі праграму і для прафесіяналаў, і для аматараў. Нашыя выступы даказваюць: на цымбалах можна выканаць усё, што заўгодна. Канечне, ёсць свая спецыфіка, але аркестр выкарыстоўвае і іншыя інструменты. Калі нешта не зусім добра гучыць на цымбалах — значыць, прагучыць на флейце…

**— «Першацвет» выступаў у Францыі, Германіі, Польшчы. Як еўрапейскія слухачы ўспрымаюць цымбалы?**

— Для іх гэта экзотыка: большасць еўрапейцаў ніколі не бачыла цымбалы. У некаторых краінах ёсць інструменты, эквівалентныя беларускім цымбалам, але яны там не вельмі распаўсюджаныя. Людзям цікава паслухаць новы інструмент, асабліва калі мы выконваем знаёмы для іх рэпертуар у нязвыклым гучанні. Еўрапейцы ўмеюць слухаць не толькі сваю музыку, але і замежныя творы, таму праз адну-дзве агульнавядомыя кампазіцыі мы заўсёды выконваем беларускія шлягеры. На Захадзе ёсць цікавасць да нашай культуры: за гэтыя гады мы аб'ехалі ўсю Германію аж да мяжы Паўднёвых Альпаў.

На нашых канцэртах звычайна шмат сталых людзей: пенсіянеры ў Еўропе вельмі актыўныя і цікаўныя, аддаюць перавагу культурнаму адпачынку. Калі нас запрашаюць на святочныя канцэрты кшталту Калядных гулянняў, то калектывы на пляцоўках змяняюцца з абеду і да самай ночы. Там, вядома, больш моладзі. Заўважна, што еўрапейскай моладзі таксама цікава паслухаць беларускія цымбалы: нягледзячы на моўны бар'ер, хлопцы і дзяўчаты падыходзілі да нас пасля канцэртаў, задавалі пытанні, дакраналіся да цымбалаў, спрабавалі зразумець, што гэта ды адкуль.

**— З якім рэпертуарам ездзіце ў еўрапейскія туры?**

— Калі нас запрашаюць, то часта дасылаюць прыкладны пералік кампазіцый, якія жадаюць пачуць. Звычайна гэта класіка (ад Баха да Чайкоўскага), сусветныя хіты ды мелодыі з кінафільмаў. Калі незнаёмы не толькі інструмент, але і рэпертуар, цікавасць можа хутка згаснуць, а так нам падпяваюць і нават танчаць. Наша народная музыка таксама досыць запатрабаваная. Я аб'яднаў у адзін музычны твор 12 папулярных беларускіх кампазіцый і назваў яго «Вянок беларускіх мелодый». У «Вянку» змясціліся ўсе нашы пазнавальныя шлягеры ад «Перапёлачкі» да «Лявоніхі». Мелодыі пераходзяць з адной у другую, узаемадзейнічаюць — гучыць прывабна, а заходнія слухачы за 4 хвіліны могуць азнаёміцца з большай часткай беларускіх мелодый. Вязём і шмат твораў беларускіх кампазітараў: Гулая, Іванова, Будніка ды іншых. Дзіўна, але некаторых з іх там ужо ведаюць! Некалькі разоў да мяне падыходзілі і прасілі выканаць творы Генадзя Ермачэнкава: ён таксама ездзіў з цымбальным аркестрам у Еўропу. Наогул, у свеце вялікая цікавасць да музыкі, якая прадстаўляе нацыянальную культуру.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# У ГОНАР СТАЛІЦЫ

## *раскві́тнее форум студэнцкіх хароў «Папараць-кветка»*

**У Беларускім дзяржаўным універсітэце з 11 па 14 мая ладзіцца XII Міжнародны форум студэнцкіх хароў «Папараць-кветка-2017». Сёлета форум прымеркаваны да святкавання 950-годдзя Мінска.**

Узяць удзел у беларускіх харавых спаборніцтвах з'ехаліся каля 200 студэнтаў з шасці калектываў. Урачыстае адкрыццё «Папараць-кветкі» адбылося ў актавай зале Інстытута журналістыкі БДУ. Падчас прэзентацыі калектываў гледачы сустрэліся з прадстаўнікамі Беларусі (народная харавая капэла БДУ, аматарскі хор «Паліфоніка», маладзёжны *«Flammeus-choir»* ды народная харавая капэла Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта), Расіі (хор *«Offenheit»*, Санкт-Пецярбург) і Польшчы (жаночы хор Лодзінскага ўніверсітэта). Завяршыўся першы конкурсны дзень майстар-класам ад вядомага італьянскага харавога дырыжора Мішэля Джосіі «Стратэгіі і метады паляпшэння гучання харавога калектыву».

Конкурсная праграма форуму традыцыйна складаецца з двух выпрабаванняў: хары-ўдзельнікі павінны прадэманстраваць валоданне свецкім і духоўным музычным рэпертуарам. Выканаць свецкую праграму давядзецца на сцэне Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі, пляцоўкай для духоўнай музыкі абралі Архікафедральны касцёл Імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі. У рэпертуар калектываў патрапілі не толькі творы класічных кампазітараў, але і сучасных, у прыватнасці Леаніда Захлеўната. Ацэньваць выступоўцаў будзе экспертны савет, куды разам з беларускімі знаўцамі Андрэем Саўрыцкім і Сямёнам Кліманавым увайшлі замежныя спецыялісты Мішэль Джосія з Італіі ды Раса Гелгацьене з Літвы.

Заключным акордам форуму стане гала-канцэрт студэнцкіх хароў у канцэртнай зале «Верхні горад», а таксама цырымонія ўзнагароджання пераможцаў у актавай зале Інстытута журналістыкі БДУ.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# З успамінамі пра пераможнае

## Вайна праз аб'ектывы айчынных кінематаграфістаў

**Усё бачыцца па-іншаму на адлегласці. Здавалася б, праз час павінна мяняцца бачанне і ўяўленне пра вайну. Але яна і дагэтуль адна з тых тэм, што дае падставы для роздуму пісьменнікам, мастакам, музыкантам. Аднавіць карціны вайны і перадаць трагізм тых падзей для прадстаўнікоў ужо пасляваенных пакаленняў здолела беларускае кіно. «ЛіМ» запытаў у творцаў розных пакаленняў, блізкіх да кіно, якія стужкі пра вайну яны б раілі абавязкова паглядзець кожнаму беларусу.**

**Алена Турава, рэжысёр анімацыйнага кіно:**

— Я вельмі люблю два фільмы майго бацькі — «Праз могілкі» і «Я родам з дзяцінства». Асабіста вылучаю **«Я родам з дзяцінства»** — гэта вельмі моцнае кіно, псіхалагічна дакладнае ў паказе таго пакалення, якое апынулася на мяжы вайны і міру, скалечанае ў нечым, тым не менш маладое, якому трэба жыць далей з нейкімі надзеямі, верай. Гэта быў час, які аказаў на майго бацьку настолькі незабыўнае ўражанне, што ён пражыў далейшае сваё жыццё да сыходу ў марах зняць яшчэ адзін фільм пра той час, нават прыдумаў назву стужкі — «Фіеста-45». Гэта час канца вайны, бо ён сам быў



Кадр з фільма «Я родам з дзяцінства» (рэж. В. Тураў).

дзіцём таго пакалення, памятаў той момант і эмоцыі, калі вайна скончылася. Тое лета, пачуццё эйфарыі, калі ўсе краіны святкавалі Перамогу, бацька пранёс праз усё жыццё. Але «Я родам з дзяцінства» — фільм не такі і шчаслівы: там шмат ран, якія пакінула вайна, і гэта вельмі тонка паказана: няма крыві, а толькі характары. У стужцы бачна, як страшна, калі жанчына губляе свайго мужа, хоць ужо аб'явілі пра перамогу; там ёсць драма дзяўчынкі, якая вяртаецца пасля палону ўжо амаль жанчынай, але ёй трэба ісці вучыцца ў школу, бо вайна пакінула яе непісьменнай; гэта хлопцы, якія рана сталі мужчынамі, бо дарослыя мужчыны сышлі, — усё пабудавана на дэталях.

Канечне, тут адчуваецца вялікі ўплыў італьянскага неарэалізму ў кіно. Узгадваю сцэну, калі сляпы лейтэнант на танцавальнай пляцоўцы танчыць з дзяўчынай, — да слёз!.. І Высоцкі там спяваў (упершыню было афіцыйна дазволена выкарыстаць яго песні). Менавіта тады бацька даў Высоцкаму дарогу ў кіно. А яшчэ ў стужцы «Я родам з дзяцінства» іграла мая маці, таму гэтае кіно я гляджу з асаблівым пачуццём.

**Вячаслаў Нікіфараў, мастацкі кіраўнік Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», рэжысёр ігравога кіно:**

— Канечне, я б параіў сваё кіно (навошта далёка хадзіць?) — «Дзяржаўная мяжа. Год сорак першы» (пяты фільм з серыі) ці «На безыменнай вышыні...». У мастацтве, я ўпэўнены, рашучае значэнне мае не «што», а «як»: калі ў стужцы вынайдзены нейкі цікавы ход, гэта каштоўнае, бо нічога новага нават Таркоўскі прыдумаць бы не змог. Калі ўзгадваць стужкі пра вайну, кіруючыся гэтым прынцыпам, то магу адзначыць, што за апошнія 20 гадоў у мяне няма такога фільма пра тыя часы, які, на маю думку, павінны паглядзець усе. Але я дакладна магу параіць стужку **Міхаіла Пташука «У жніўні 44-га...»**. Гэта кіно, якое зроблена вельмі разумна, нават «пісьменна», бо сёння вялізнай праблемай беларускага кіно з'яўляецца ўзровень прафесійнага майстэрства рэжысёраў. А стужка Пташука выканана ў лепшых традыцыях айчыннага кінематографа: гэта тычыцца і рэжысуры, і сцэнарыя. З другога боку, гэтае кіно пра вайну вельмі рамантычнае, цэласнае — у ім бачная, як ні дзіўна, рамантыка «Смерша», контрвыведкі, а гэта адбіваецца яшчэ і дзякуючы выдатнай акцёрскай ігры. «У жніўні 44-га...» — гэта яшчэ і проста вельмі добрыя традыцыі рэжысуры Пташука: варта ўзгадаць таксама яго «Знак бяды», «Вазьму твой боль». Не ўспомню канкрэтны эпізод, які мяне



Кадр з фільма «У жніўні 44-га...» (рэж. М. Пташук).

ўзрушыў, але момант, калі героі захопліваюць і выкрываюць групу дыверсантаў, зроблены па-майстэрску. Я наогул гляджу гэтае кіно не як глядач-аматар, а як рэжысёр-прафесіянал, таму, калі бачу добрае кіно, мне прыемна назіраць за выдатнай працай кінематаграфіста, калі ж «капаць» глыбей, то для мяне ў стужцы вельмі каштоўна знайсці нейкую «неверагодную ідавочнасць» — штосьці простае, але яно будзе выглядаць незвычайна. У стужцы Міхаіла Пташука гэта ёсць.

**Людміла Перагудава, галоўны рэдактар часопіса «На экранах», кінакрытык:**

— Стужка, якую варта паглядзець, так і называецца — **«Вайна» Дзмітрыя Лася**, гэта кароткаметражнае кіно, заснаванае на аповесці Самерсэта Маэма. Зняў гэтае кіно вучань Міхаіла Пташука ў 2004 годзе, ён перанёс твор Маэма ў рэаліі акупацыі Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі. Дакладна магу адзначыць, што гэта выдатны дэбют, але, на жаль, ён не нарадзіў рэжысёра для беларускага кінематографа, які мог бы працягнуць гэтую тэму з тым эмацыянальным пасылам, які атрымаўся ў «Вайне».

Гэтая стужка атрымала ўсе прызы Нацыянальнага кінафестывалю ў Брэсце, прыз за лепшую рэжысуру імя Міхаіла Пташука; прыз за лепшую жаночую ролю атрымала актрыса Яна Буйко, і прыз за лепшую мужчынскую ролю далі Анатолю Кату. Адным словам, стужка «выбухнула», узняла вельмі высокую планку размовы на тэму вайны. У фільме практычна адсутнічаюць словы, таму візуальны, выяўленчы шэраг выбудаваны неверагодна: Дзмітрый Лось па першай адукацыі — мастак, і гэта вельмі ярка адчуваецца ў яго стужцы. Дарэчы, фільм атрымаў і «Залатога віцязя», але ў гісторыі беларускага кіно, і не толькі кіно пра вайну, Лось дагэтуль займае нейкае асобнае, аўтаномнае месца. Нягледзячы на гэта, стужку «Вайна» трэба паглядзець, каб упэўніцца ў тым, што пераемнасць пакаленняў на «Беларусьфільме» была, і вельмі крыўдна, што яна спынілася.



Кадр з фільма «Вянок санетаў» (рэж. В. Рубінчык).

Не магу не дадаць, што парэкамендавала б да прагляду неверагодную стужку **Валерыя Рубінчыка «Вянок санетаў»**. Дарэчы, Рубінчык паказваў сваім студэнтам стужку Лася і быў у захапленні ад яго таленавітай «Вайны». Што да «Вянка санетаў», то настолькі выдатнага, аўтэнтычнага твора не толькі ў айчынным, але і ў еўрапейскім кінематографе на той момант не было. Трэба пераглядзець фільм, пачуць, як гучыць чароўны голас Бэлы Ахмадулінай, і заўважыць, як кіно, экраннае мастацтва, спалучаецца з высокай паэзіяй.

**Ігар Чышчэня, рэжысёр дакументальнага кіно:**

— Я не так даўно чытаў пра Орсана Уэлса і заўважыў, што ў тэксце гаворыцца пра «Грамадзяніна Кейна» так: у гэтым фільме — захапленне чалавека, які нарэшце робіць сваю справу і адчувае ўпэўненасць. І гэта вельмі простая, дакладная, канцэнтраваная гісторыя доўгу, прабачэння і разумення. Гэта адступленне да таго, што **«Усходні калідор» Валянціна Вінаградава** — зусім іншы выпадак. Я глядзеў гэтае кіно некалькі разоў і не магу сказаць, што змог яго зразумець да канца. Кампазіцыя фільма — шматслаёвая фрэска пра савецкае падполле, дзе ёсць некалькі сюжэтных ліній, якія перамяжоўваюцца ў даволі адвольным парадку. Затое гэта стварае выдатную атмасферу страху, недаверу, асуджанасці, але ў той жа час надзеі. Сцэна пагрому, патопу ў гета, напэўна, — адна з самых першых згадак пра халакост у савецкім і сусветным кіно. І, сапраўды, «Усходні калідор» — кіно вельмі экспрэсіўнае, не падобнае да савецкага. Гэта фільм не пра ваенных і не пра партызан, а пра невядомых падпольшчыкаў, што даволі рэдка для савецкага кіно: у кінастужцы адчуваецца ўплыў заходняга кінематографа, у якім тэма падполля была прадстаўлена больш шырока. Можна адзначыць, што аператарская праца Юрыя Марухіна вельмі выразная, рэзкая, графічная і экспрэсіўная, а музыка Мікаэла Тарывярдзіева — як прамень надзеі. Усе сюжэтныя лініі фільма напластоўваюцца, у іх лёгка заблытацца. Але, мабыць, у гэтым і ёсць выдатная метафара стану знаходжання ў падполлі, калі не ведаеш, хто — сябар, а хто — вораг. Калі пераглядаю «Усходні калідор», адчуваю здзіўленне і неразуменне, бо тут вайна не з таго боку, з якога нам звычайна паказваюць. Гэта сапраўды такая падрапаная фрэска, дзе галоўнае — вобразы і эмоцыі. Сюжэт пастаянна скача. Мне падаецца, гэта самы сапраўдны арт-хаус сучаснай мовай.



Кадр з фільма «Усходні калідор» (рэж. В. Вінаградаў).

**Нэла Васілеўская, выпускніца Акадэміі мастацтваў, рэжысёр:**

— Фільм пра вайну, які ўзрушыў мяне сапраўды вельмі моцна і задаў планку для ацэнкі ўсіх наступных фільмаў на гэтую тэматыку, — **«Ідзі і глядзі» Элема Клімава**. Памятаю ўражанне ад першага прагляду: шок, змяшаны з натуральным жахам ад тых падзей. І не таму, што мне паказалі рэкі крыві і горы мёртвых чалавечых цел. Адразу на розум прыходзіць сцэна, якая адкрывае фільм: хлапчукі, якія быццам проста гуляюць, як і ўсе дзеці, і дарослы дзядзька, які, як і ўсе дарослыя, лае іх за гарэзлівасць. І ўжо з першай сцэны глядач можа яшчэ не зразумець, чым скончыцца дзіцячае свавольства, але ўжо прадчуваецца нешта нядобрае... Гэта адчуванне ўзмацняецца: у фільме выдатна прапрацаваныя дэталі, пачынаючы ад акцёрскай ігры героя, яго хрыплага сарванага голасу, да нарастаючага гулу самалёта, вобраз якога лейтматывам пройдзе праз стужку. Для мяне гэта добры фільм жахаў, а «Ідзі і глядзі» для сябе пазіцыяную менавіта так: калі нам паказваюць увесь жах не ў плоці, не ў нейкім увасабленні, а калі нагадваюць з экрана, што гэты жах недзе побач, што ён вось-вось дакранецца да нас. Калі страх стаіўся за сцяной, і мы можам толькі адчуваць яго подых, а не як у сучасных хорарах, калі ўвесь жах — гэта нечаканае «бу!» з-за кута і музыка на фоне. Думаю, апісанне гэтага д'ябла вайны, які стаіўся за сцяной твайго дома, як тыя трупы людзей, — у сцэне, калі



Кадр з фільма «Ідзі і глядзі» (рэж. Э. Клімаў).

герой заходзіць у дом, і толькі нерэальнае бзомканне мух папярэджвае аб страшнай карціне, якая адкрыецца пазней... І ў фільме шмат такіх момантаў, якія адкрываюць нам вобраз д'ябла вайны, а глядач ужо сам дамалёўвае яму вусы і свастыку. Для мяне гэтае кіно было адкрыццём, а зараз свайго роду дапаможнік, як можна здымаць пра вайну, ды і не толькі пра вайну, а хутчэй пра чалавека, які трапіў у гэтую пастку. Глыбокі і страшны фільм, і, каб даведацца пра вайну, я, не раздумваючы, параю: «Ідзі і глядзі».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Валерый СЛАУК:
# «ДУМАЦЬ СЭРЦАМ»

**Ён — лідар, адзін з самых знакамітых прадстаўнікоў школы сучаснай графікі Беларусі. Яго творчасць, інтэлектуальная і захапляльная, не можа пакінуць абыякавым ні дзяцей, ні дарослых. Яго фантазія невычэрпная, героі запамінальныя і абаяльныя. На творчым шляху мастак неаднаразова сутыкаўся з крытыкай сваіх твораў, але курс не змяніў — працягнуў адлюстроўваць фальклорных персанажаў такімі, як іх адчувае. Сёлета майстру споўнілася семдзесят гадоў, і мы аглядаем яго шлях да мастацтва.**



**— Вашы кніжныя ілюстрацыі захапляюць. Здаецца, што яны перанесены з дзяцінства…**

— Калі вучыўся ў школе на радзіме, у вёсцы Коханава Віцебскай вобласці, сябраваў з дачкой мясцовага дырэктара школы. У гэтым мне і пашанцавала. Кніжак у той час я асабліва купіць не мог, бо жылі бедна, а на зарплату прыбіральшчыцы мама не магла дазволіць сабе набываць кнігі. А ў дырэктара школы было шмат добрых кніг, якімі часам дзялілася са мной яго дачка. Ды мама мая са школьнай бібліятэкі прыносіла розныя кнігі, якія я да гэтага часу памятаю. Напрыклад, казкі Братоў Грым з ілюстрацыямі Гюстава Дарэ. Гэта ўнікальнае выданне, пасля тых часоў больш і не бачыў такіх кніг нідзе. Мне спадабаліся ў ёй гравюры. Ужо тады, разглядаючы іх, думаў, якім чынам яны ствараюцца. Гэта быў узрост, калі я нават чытаць не ўмеў. Але ўсё роўна імкнуўся ўявіць аповед па малюначку.

**— Як напаткалі думкі стаць мастаком?**

— Першы клас я скончыў у Беларусі. Майго старэйшага брата размеркавалі на Урал, ён там ажаніўся і пасля забраў маму і мяне да сябе. У горадзе Златавуст я і пайшоў у школу, вучыўся да сёмага класа. Дарэчы, у гэты горад былі эвакуіраваны прадстаўнікі сталеліцейнай прамысловасці падчас вайны. Ён быў вялікі і вельмі дзіўны. У нашым класе вучылася палова татараў, палова рускіх. Цікавы час быў... Калі б застаўся там, адчуваю, жыццё павярнулася б па-іншаму. Але там быў дрэнны клімат, і маме стала складана. Мы вярнуліся на радзіму, купілі невялікую ўтульную хатку. І з таго часу не люблю вялікія памяшканні. Я паступіў у тэхнікум (трэба ж было пасля сёмага класа неяк уладкоўваць жыццё). Калі паступаў, не задумваўся: падабаецца прафесія ці не. Неяк давучыўся. Пасля заканчэння нават папрацаваць паспеў паўгода ў калгасе — механікам. Але ў гэтым не разбіраўся. Рабочыя хутка зразумелі, што я не валодаю патрэбнай інфармацыяй, нават спецыяльна ламалі запчасткі, каб я шукаў прычыну. А я не разумеў. І быў рады, калі прыйшла позва ў армію, хоць і думаў, што служыць не возьмуць: у той час у мяне ўжо не было ўказальнага пальца. Але бралі ўсіх. Да арміі таксама папрацаваў на Коханаўскім ільнозаводзе. Там, дарэчы, працаваў адзін са сваякоў Міхаіла Савіцкага, малады хлопец. Калі прывозілі лён, складалі яго ў скірды, і хлопец распавядаў, што яго сваяк — вельмі вядомы мастак у Мінску. Было цікава, я з захапленнем слухаў. Але ў той момант нават не падумваў звязаць сваё жыццё з мастацтвам. Не было мары стаць мастаком, хоць маляваў заўсёды.

Наогул, папрацаваць у такой нятворчай сферы было цікава. Я даведаўся гісторыі і лёсы многіх людзей. Яны надоўга засталіся ў памяці. З аднаго боку, досвед быў негатыўны, а з іншага — карысны. Цяпер мяне практычна немагчыма чымсьці здзівіць. Тым больш з часам дрэнныя ўспаміны знікаюць, застаюцца толькі добрыя.

**— Што ж стала штуршком да павароту ў бок мастацтва?**

— Пасля арміі па спецыяльнасці тэхніка-механіка працаваць я больш не пайшоў. А старэйшы брат мне дапамог уладкавацца кантралёрам на БелАЗ у Жодзіна. Ён мне быў як бацька, толькі яго слухаў. Мама са мной не заўсёды спраўлялася, а я быў вельмі шкодлівы. Калі б не брат, не ведаю, як склаўся б мой жыццёвы шлях. Кантралёрам мне таксама не вельмі падабалася працаваць, бо я павінен быў быць строгім, а ў мяне



не заўсёды атрымлівалася. Працуючы, я часта маляваў і дзеля цікавасці паслаў у «Вожык» некалькі карыкатур, а іх узялі і надрукавалі. Тады на заводзе мяне сталі называць мастаком. Гэта натхніла. Вырашыў паспрабаваць паступіць у тэатральна-мастацкі інстытут.

Мне вельмі пашанцавала, што ў прыёмнай камісіі быў прафесар Павел Канстанцінавіч Любамудраў. Я набраў з сабой малюнкаў, якія рабіў у войску: партрэты па фотаздымках. Любіў фантастыку, у мяне было шмат фантастычных пейзажаў. Паўлу Канстанцінавічу вельмі спадабалася, але ён спытаў: «Ты хоць “абнажонку” маляваць умееш?». Вядома ж, я не ўмеў. Прафесар адправіў мяне ў клас, паглядзець, як малююць агаленую натуру. І я злёгку зразумеў, як можна ўлавіць момант. Потым ён мяне накіроўваў у іспытах. Перад іспытам жывапісу сказаў: «Толькі чырвоны колер чырвонай фарбай не пішы. Трэба рознымі фарбамі чырвонага дамагчыся». А я паняцця не меў, як рознымі фарбамі можна прыйсці да аднаго колеру. Ён даў мне пэндзаль і паказаў, як змешваць палітру. Партрэт атрымаўся не вельмі якасны, а вось нацюрморт выйшаў добра. Справа дайшла да кампазіцыі, нам трэба было паказаць чалавека падчас працы. Я адразу ж успомніў свой досвед механіка ў калгасе, намаляваў карыкатурныя сюжэты, дзе адлюстраваў, як людзі капаюць бульбу, коней гоняць з поля. Экзамен прымаў Васіль Пятровіч Шаранговіч. Ён хадзіў па класе, глядзеў, як мы малюем, потым падышоў да мяне, паклаў руку на плячо і сказаў: «Ты ж не з'едзь нікуды». Я зразумеў: шанец ёсць. Па балах я быў другім залічаным у групу. І лічу, што мне вельмі пашанцавала. Калі б не паступіў, другі раз бы нават і не спрабаваў. Характар такі: не палезу больш у справу, якая не пайшла спачатку.

**— Падчас вучобы ўпэўніліся, што зрабілі правільны выбар?**

— Вучыцца было вельмі цікава. Адкрываліся новыя гарызонты. З фантазіяй у мяне заўсёды ўсё было добра, таму працаваць з кнігай было цікава. Маім дыпломным праектам стала ілюстраванне беларускай казкі «Удовін сын». А наогул нас схілялі звяртацца да сур'ёзных твораў — Янкі Купалы, Якуба Коласа. Але ў мяне такія творы не атрымліваліся рабіць пераканаўча. Нават да гэтага часу я стараюся не брацца за драматычныя кнігі. Па складзе розуму, тэмпераменце мне бліжэй ілюстраваць казкі або фантастычныя кнігі. Я люблю прыдумляць. Кніга «Удовін сын» атрымалася, потым яна была перакладзеная на мноства моў.

Цяпер я і сам выкладаю. Выкладаць мяне запрасілі ў 1997 годзе. Захопліваў працэс абмеркавання са студэнтамі працэсаў творчасці, вельмі падабалася ім дапамагаць. З часам у сістэме адукацыі шмат што змянілася. І сёння прад'яўляць студэнтам патрабаванні, якія былі ў нас, проста немагчыма. Гэта зусім іншыя людзі, яны па-іншаму думаюць. Але заўсёды ёсць студэнты, у якіх адразу бачыш добрага мастака. Вось, напрыклад, Кацярына Дубовік, мая дыпломніца. Часта кажа мне: «Валерый Пятровіч, а я калі толькі прыйшла вучыцца, ведала, што ў вас буду пісаць дыплом. Яшчэ ў дзяцінстве вашы ілюстрацыі да кніжак алоўкамі размалёўвала».

**— А як прыйшлі да тэмы беларускай міфалогіі?**

— Пасля дыплома траплялíся розныя кніжкі. Першая кніга была пра тое, як піянеры метал збіраюць. Прытым нельга было зрабіць палосных да яе ілюстрацый, патрэбныя былі аборачныя, а яны самыя нелюбімыя для мяне. Праз гэты этап трэба было прайсці, каб у далейшым зразумець, як хочаш працаваць. А вось другая кніжка «Піліпка-сынок», якая да гэтага часу для мяне з'яўляецца прыкладам, як можна кніжкі рабіць, была па душы. Пасля ж адно выдавецтва прапанавала зрабіць беларускую энцыклапедыю пра фальклор у двух тамах. І мне было так цікава! Кніга атрымалася вельмі прыгожай, але каб яе прынялі, давялося паслухаць нямала негатыўных каментароў. Хтосьці задаваўся пытаннем, што за чэрці на вокладцы, акцэнтуючы ўвагу на тым, што фальклор павінен быць добрым. Я ж стаяў на сваім меркаванні: маляваць на вокладцы толькі сонца — няма сэнсу, гэта не захапляе. А вось такія персанажы, як дамавікі, лесавікі, — жывыя, сапраўдныя. Дык гэтае ж выдавецтва, калі энцыклапедыя атрымала прызнанне ў Маскве, прапанавала мне зрабіць асобную кнігу пра маіх персанажаў. Я шмат чытаў замежнай літаратуры. Мне заўсёды падабалася чытаць пра эльфаў. Беларускі фальклор вельмі адрозніваецца ад замежнага. Ён менш рамантычны, аднак і ў нас ёсць прастор для фантазіі. Толькі ўспомніце пра русалак — палявых, паветраных, нават пра тых, якія на зіму абрастаюць белым мехам…

Кнігі, з якімі я працаваў, досыць часта падвяргаліся крытыцы. Казалі, што толькі чарцей магу маляваць. Але тое, што прыдумаў народ, нельга выкрасліць з гісторыі. Поспех да кніг з маімі ілюстрацыямі прыйшоў, дарэчы, не адразу. Цікава, што многія з кніжак, якія я рабіў гадоў дваццаць, трыццаць таму, сталі актуальнымі для чытача толькі цяпер.

**— Ведаю, што перавагу ў творчасці вы аддаяце афорту...**

— Афорт у нас выкладаў Уладзімір Пашчасцьеў. Ён здолеў мяне ім зацікавіць, таму што сам вельмі любіў. Афорт, як ён казаў, — гэта самая арыстакратычная графічная тэхніка, хоць і даволі працаёмкая і брудная. Працаваць з бензінам, керасінам, ацэтонам зможа далёка не кожны. Але мне з афортам так спадабалася вазіцца, што не перастаю захапляцца працэсам да гэтага часу. На Захадзе многія мастакі працуюць з фотапалімернай тэхнікай. Гэта калі афорты можна рабіць не на метале і не апускаць у кіслату, а на фотапалімерных пласцінах: маляваць практычна нічога не трэба, з дапамогай камп'ютара можна выбраць малюнак. Але мне такая тэхніка не падабаецца. Яна штучная. У маім жа выпадку я кірую працай ад пачатку да канца: любая памылка — гэта мая памылка, гэтак жа, як і поспех. Рамесная тэхніка прымяненне рук для мяне важная. Афорт, на мой погляд, яшчэ доўга не страціць значэння нават пры новых тэхналогіях.

**— Вам патрэбна натхненне, калі вы ствараеце мастацкія творы, ці ўсё ж такі галоўнае — прафесіяналізм?**

— Мне нават не натхненне трэба, а ўмовы. Натхнення можна не дачакацца... Мне трэба пачаць працаваць, і тады прачынаецца цікавасць. Як толькі ідэя зачэпіць, пачынаеш паглыбіцца ў працэс. Абстрагуешся ад логікі і розуму, пачынаеш думаць сэрцам. Але з узростам нават парыў таксама можа прайсці. Робіш па інерцыі. А многія пачынаюць паўтарацца.

Нягледзячы на тое, што досвед мой у працы быў розны, сёння нават не магу ўявіць сябе ў іншай прафесіі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# НІЯКАЙ МІТУСНІ

## Вобразы, захаваныя насуперак часу, што змяняе наваколле

**Мастак Іван Козел свой творчы шлях прысвяціў радзіме: вытанчанасць яе краявідаў адлюстроўвае ў большасці мастацкіх твораў. У Мастацкай галерэі «Беларт» праходзіць выстаўка жывапісу майстра «Ваколіцы Мінска», дзе прадстаўлены творы 1998 — 2017 гадоў, прысвечаныя архітэктурным і прыродным ландшафтам Міншчыны.**

Іван Козел тонка адчувае гукі і пахі і з лёгкасцю пераносіць гэта на палотны. Аўтар аднолькава любіць гарадскую прастору і вёску, лічыць, што яны звязаныя. Для яго эстэтыка горада — у спалучэнні архітэктурных будынкаў з краявідамі, а вёска дарагая аўтэнтычнымі традыцыямі.

— Мастак спрабуе злучыць прыкметы нацыянальнага прыроднага ды архітэктурнага асяроддзяў, каб перадаць пазнавальны вобраз і каларыт беларускага ландшафту, — адзначае мастацтвазнаўца Галіна Гаравая. — У яго карцінах злучаюцца з'явы прыроды і гістарычныя архітэктурныя збудаванні. Сутнасць раскрыцця пейзажнага вобраза — не толькі ў адлюстраванні любові мастака да прыроды, спасціжэнні



*«Летні дзень. Заслаўе», 2009 г.*

*«Старая Лошыца», 2006 г.*

філасофскай сутнасці навакольнага свету, а яшчэ і ў выяўленні асноў нацыянальнай ментальнасці, аднаўленні гістарычнай памяці свайго народа. Стрыманасць палітры і праца з колерам — аснова творчай манеры Івана Козела. Напэўна, дзякуючы гэтай індывідуальнай рысе надзвычай плённым было творчае судакрананне маладога жывапісца з асобай і метадалагічным прынцыпам Міхаіла Савіцкага — пісаць не побыт, а быццё, адбіраць і супастаўляць элементы мастацкай формы, ніколі слепа не пераймаць прыроду і не капіраваць натуру.

Іван Козел лічыць рэалізм вялікай сістэмай, праз якую ён навучыўся выкрэсліваць усё негатыўнае. Яго творчасць — як адсылка да ўспамінаў альбо праецыраванне ідэальнага свету, якім мастак натхняецца. Творца працягвае традыцыі знакамітых айчынных класікаў пейзажнага жанру, такіх як Вітольд Бялыніцкі-Біруля, Гаўрыіл Вашчанка, Станіслаў Жукоўскі. Многія навыкі пераняў ад сваіх выкладчыкаў — Мая Данцыга і Міхаіла Меранкова. А вось шукаць агульную мову з прыродай навучыўся ў Барыса Аракчэева, калі праходзіў практыку ў Жыровічах.

Прадстаўленая выстаўка — не проста прысвячэнне Міншчыне, але яшчэ і рэтраспектыва кадраў гарадской прасторы. Мастак памятае вобласць рознай. Адзначае, што раней пісаў пейзажы, не задумваючыся, якое значэнне яны набудуць пасля: многіх аб'ектаў архітэктуры, паркаў, жывапісных месцаў больш няма. Аўтар пераносіць нас у горад без хмарачосаў і дарагіх машын, у мясціны, дзе няма мітусні, дзе лёгка забыцца на праблемы і клопаты.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс

Танк Т-34 — помнік знакамітаму экіпажу Героя Савецкага Саюза Паўла Рака, які ўдзельнічаў у вызваленні Барысава.

У ноч на 30 чэрвеня 1944 года танкаваму ўзводу лейтэнанта паставілі задачу: уварвацца ў горад, заняты немцамі, і змагацца да падыходу галоўных сіл корпуса. З чатырох танкаў толькі экіпажу Т-34 (камандзір Павел Рак, механік-вадзіцель Аляксандр Пятраеў, стралок-радыст Аляксей Данілаў) удалося прарвацца ў Барысаў па замініраваным мосце праз раку Бярэзіну.

Другі і трэці танкі спалілі яшчэ на падыходзе да моста, чацвёрты змог праскочыць на процілеглы бераг ракі, але быў падбіты і загарэўся. Затым немцы падарвалі мост праз Бярэзіну.

Пра тое, што адбывалася ў горадзе, аднапалчане Паўла Рака даведаліся толькі пасля яго ўзяцця. Спачатку «трыццацьчацвёрка» расстраляла варожую аўтакалону. Наступны «візіт» савецкі танк нанёс у камендатуру. Для тых, хто здолеў уцячы, выгляд танка, які выязджае з цемры, напэўна, яшчэ доўга заставаўся жудасцю.

Павел Рак са сваім экіпажам зрабіў шмат і мог выйсці з бою і чакаць падмацавання: да Барысава падыходзілі іншыя часткі Чырвонай Арміі. Горад будзе ўзяты — не сёння, дык заўтра. Але лейтэнант вырашыў працягваць бой. На досвітку танк наблізіўся да шпіталя, дзе ўтрымліваліся параненыя савецкія ваеннапалонныя. Кулямётныя чэргі скасілі некалькіх ахоўнікаў, астатнія збеглі. Ад непазбежнай смерці былі выратаваны некалькі соцень палонных.

Далей «трыццацьчацвёрка» прарвалася да чыгуначнай станцыі — вельмі важнага для нямецкага камандавання аб'екта. Пасля таго, як сярод эшалонаў прайшоўся савецкі танк, каштоўнасць горада як чыгуначнага вузла прыкметна знізілася.

У мужных танкістаў закончваліся патроны, снарады, гаручае. Але воіны ведалі, што не адны: з раніцы за іх спінамі грукатаў бой. Барысаў ужо трымалі танкавыя брыгады Чырвонай Арміі. Але на нашу атаку ворагі адказвалі контратакай. Апошнім рашэннем лейтэнанта Паўла Рака было: «Дапамагчы нашым!». Т-34 ірвануў да пераправы, спрабуючы ўтрымаць яе да падыходу нашых частак, але немцы выслалі насустрач тры танкі тыпу «тыгр»… Бронемашына Паўла Рака згарэла, танкісты загінулі.

У тыя хвіліны, калі экіпаж «трыццацьчацвёркі» трымаў апошні бой, мотастралковы батальён яго брыгады ў рукапашным бai авалодаў другой лініяй траншэй на ўскрайку Барысава. Да ночы бой працягваўся ўжо ў горадзе, а пантонныя часці здзяйснялі пераправу праз Бярэзіну...

24 сакавіка 1945 года Паўлу Раку і членам экіпажа пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

**Тамара КІРДЗЯШАВА**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***




ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка
Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк
11.05.2017 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1566.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Заказ — 1774
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686
9 770024 468001 17019